Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

№ 3—4. 15 жніўня 1929 году

# ВЕСТКІ

ЦЭНТРАЛЬНАГА КАМІТЭТУ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (бальш.) БЕЛАРУСІ.

ВЫХОДЗЯЦЬ ДВА РАЗЫ Ў МЕСЯЦ.
АДРАС РАДАКЦЫІ: Менск, Савецкая, ЦК КП(б)Б. Тэлефон № 585.

Падпіска прымаецца ва ўсіх паштовых установах БССР.
УМОВЫ ПАДПІСКІ: на 6 мес. . 1 р. 25 к.
на 3 мес. . 65 к.





## Задачы асеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі.

Папярэднія весткі аб праробленай працы ў вясеньнюю кампанію партыяй, савецкімі ворганамі і каапэрацыяй, сьведчаць па-першае, аб тым, што лінія на калектывізацыю і вытворчае каапэраваньне вёскі ня ёсьць ужо толькі агітацыя, а ёсьць практычная работа ячэек, сельсаветаў, каапэратыўных арганізацый, і пры тым асноўная маса бядняцка-серадняцкіх колаў вёскі зразумела, што шлях эканамічнага і культурнага палепшаньня гэтых пластаў ёсьць адзіна правідловы ў калектывізацыі і вытворчым каапэрыраваньні і таму маем масавыя зьявішчы па Віцебскай, Бабруйскай і другім акругам Рэспублікі арганізацыі калгасаў з хутароў, якія былі арганізаваны ў часы Сталыпіншчыны.

Другім вынікам гэтай кампаніі неабходна прызнаць рашучы і добры падыход з боку значнай часткі мясцовых арганізацый па грунтоўнай рэарганізацыі сельскай гаспадаркі; шматпольле, аграмінімум, зернаачыстка, збор попелу і інш., з масавым уцягненьнем у гэтую справу шырокіх бядняцка-серадняцкіх колаў вёскі.

Трэцім вынікам у рабоце неабходна адзначыць арганізацыю бядняцкіх мас вёскі супроць кулака, які ў гэтую кампанію з асобнай рашучасьцю скарыстоўваў усе мэтады і спосабы барацьбы супроць мерапрыемстваў партыі і савецкай улады. Досыць указаць на тое, што да агітацыі супроць калектывізацыі скарыстоўвалі жабракоў.

Усё гэта сьведчыць аб тым, што кампанія бягучага году праходзіла пры рашучым наступленьні на кулака і што клясавы вораг вар'яцеў



не таму, што ён моцны, а таму, што бедната давала адпор.

Але-ж тое, што беднатa давала рашучы адпор кулаку нас ні ў якай меры супакоіць не павінна і нам неабходна ў сыстэме ўсіх мерапрыемстваў па сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі зорка сачыць за нашым клясавым ворагам.

І, наканец, чацьвертым вывадам з праведзенай работы ў вясеньнюю кампанію неабходна зрабіць тэй, што яшчэ ёсьць арганізацыі, якія дагэтуль не дастаткова падышлі да ажыцьцяўленьня задач калектывізацыі і вытворчага каапэрыраваньня, падняцьця ўраджайнасьці, па замацаваньню ўжо дасягнутых вынікаў; прычым, гаворачы аб недахопах, досыць прывесьці такія факты, што слаба зварочваецца ўвага вытворчым відам каапэрацыі—семенаводнай, малочнай. За вясеньнюю кампанію семенаводная каапэрацыя не разгорнута. З аграўпаўнаважанымі не вядзецца работы і аграмінімум застаецца фармальна прынятым, у жыцьцё не праводзіцца, межы не абкашваюцца, вада з палёў вясною ня спускаецца, попел не сабіраецца, павярховае палепшаньне сенажацяй не праводзіцца і г. д.

Для таго, каб замацаваць дасягнутыя вынікі ў вясеньнюю кампанію, ужо зараз неабходна яшчэ з большай рашучасьцю ўсяго партыйнага і савецкага калектыву ўзяцца за правядзеньне мерапрыемстваў па васеньняй сельска-гаспадарчай кампаніі. Я падкрэсьліваю, ня толькі пасеўнай, а *сельска-гаспадарчай*, таму, што зьвесьці зараз ужо ўсе задачы толькі да пасеўнай зусім немагчыма, так як задачы, якія стаяць, непасрэдна ўваходзяць у падрыхтоўку да васеньняй кампаніі 1929-30 году. Асноўнымі задачамі, выкладзенымі ўжо раней у дырэктывах ЦК партыі, зьяўляюцца: далейшая арганізацыя і ўзмацненьне існуючых калгасаў і вытворчых каапэратываў, рашучае супроцьстаўленьне ў сваёй рабоце бядняцка-серадняцкага блёку кулаку; пашырэньне пасеўнай плошчы на $1^1/_2\%$, прычым, у савецкіх гаспадарках на $2,6\%$, у калгасах з умоў арганізаванымі на $64,4\%$; пашырэньне пасеўнай плошчы пад сартовымі пасевамі; павялічэньне ўраджайнасьці ў саўгасах на $20\%$, калгасах на $12\%$ і індывідуальных сялянскіх гаспадарках на $7\%$; сваечасовая ўборка, абмалот, зернаачыстка і здача па кантрактацыі азімых; зяблевае ворыва, лушчэньне і павярховае палепшаньне сенажаці; закладка сіласных ям і г. д.

З прыведзеных задач зусім яскрава, што васеньняя кампанія ня ёсьць пасеўная, а ёсьць *работа, разьлічаная на пэўны пэрыяд гадоў* і стаячая ўжо зараз у цеснай сувязі з будучай вясеньняй кампаніяй, прычым, на асобных з гэтых задач неабходна застанавіцца асобна: пытаньне калгасаў і вытворчых каапэратываў павінна прыцягнуць увагу ўсіх партыйных, савецкіх і каапэрацыйных органаў, дабіўшыся лепшай пастаноўкі вытворчасьці сельскай гаспадаркі (уборка, зернаачыстка, падрыхтоўка кармоў, унутраны парадак і г. д.), дзе гэта неабходна, памагчы маральна і матэрыяльна, дабіваючыся выкананьня задач, ускладзеных на калгасы партыяй і ўладаю (кантрактацыя і здача закантрактаваных лішкаў хлеба і сыравіны).

Пытаньні ўборкі азімых, зернаачыстка і пашырэньне пасеўнай плошчы пад чыстасортнымі пасевамі павінны заняць галоўнейшае месца ў рабоце, прычым, яны важны яшчэ і таму, што ўборка і засеў у васеньнюю кампанію адзін ад другога знаходзяцца вельмі на блізкім па часу вытворчасьці работы тэрміну, а таму трэба, каб уборачныя і зернаачысьціцельныя машыны былі сваечасова падрыхтаваны, адрамантаваны, там дзе іх няма—завезены на месцы прызначэньня, каб было каляндарнае расьпісаньне ў кожным сельсавеце, калі і ў якое месца павінен рухацца зернаачысьціцельны абоз, у аграўпаўнаважанага павінна быць чарга ачысткі пасеўматэрыялу

усімі дварамі. Трэба, каб зернаачысьціцельныя машыны працавалі ня менш, чым у дзьве зьмены, а калі гэта будзе патрэбным, перавесьці на 3 зьмены—асабліва зараз трэба намеціць у кожным калгасе, пасёлку, семенаводным таварыстве, дзе павінны быць засеяны чыстасортныя пасевы—зьвязваючыся з арганізацыяй, якая гэтае насеньне будзе прысылаць.

Пры ажыцьцяўленьні мерапрыемстваў па падняцьцю ўраджайнасьці неабходна максымальна скарыстаць мясцовыя віды ўгнаеньня—торф, вапну і інш.

Асаблівае значэньне набывае ворыва, лушчэньне глебы і павярховае палепшаньне сенажацяй.

Тут неабходна ў першую чаргу зьвярнуць увагу на саўгасы і калгасы. З аднаго боку, каб яны сваім прыкладам паказалі бядняцка-серадняцкім гаспадаркам, якую выгаду нясе зяблевае ворыва, лушчэньне і павярховае палепшаньне сенажацяй, а з другога боку, усе гэтыя мерапрыемствы павінны набыць асобную вайстрату, паколькі задача разьвіцьця жывёлагадоўлі ўпіраецца ў кармовую базу, у падняцьце ўраджайнасьці палёў, палепшаньне сенажацяй і закладку штучнае пашы.

Зусім новае мерапрыемства намячаецца да ажыцьцяўленьня ў гэтым годзе, гэта загатоўка сіласнага корму. Трэба, каб своечасова былі гэтыя ямы пабудаваны, каб у бліжэйшы час зямельныя і каапэрацыйныя ворганы ўчынілі экскурсіі на дасьледчыя станцыі і саўгасы, дзе ёсьць сіласныя ямы.

Для шырокага азнаямленьня калгасьнікаў і сялян з спосабамі падрыхтоўкі кармоў,—трэба, каб аграномы павялі шырокую растлумачальную кампанію.

Уцягнуць у сацыялістычнае спаборніцтва саўгасы, калгасы і паасобныя двары, прычым, саўгасы і калгасы павінны дапамагчы сваім прыкладам удзельнічаць у спаборніцтве бядняцка-серадняцкім пластам вёскі. Трэба, каб ня было ніводнага двара, калгаса і саўгаса, якія-б не паставілі перад сабою зусім магчымыя і напэўныя мерапрыемствы сацыялістычнага спаборніцтва. Неабходна партыйным, зямельным, і каапэрацыйным ворганам скарыстаць як найлепш сродкі—мабілізацыю мас вакол задач сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, як прыладу барацьбы рабочае клясы і працоўнага сялянства з цяжкасьцямі сацыялістычнага будаўніцтва.

У заключэньне неабходна сказаць, што толькі пры таварыскай энэргічнай рабоце, мы напэўна справімся з пастаўленай задачай, пакажам панікёрам і ныцікам з лягэру правых, што генэральная лінія партыі ў сацыялістычнай рэканструкцыі ёсьць адзіны правільны шлях разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

**Масюкоў.**

---

# Аб задачах груп беднаты.

У сучасны пэрыяд, калі рабочая кляса, абапіраючыся на беднату, у цесным саюзе з серадняком, пад кіраўніцтвам камуністычнай партыі, прыступіла да практычнай работы па сацыялістычнай перабудове сельскай гаспадаркі на грунце яе калектывізацыі і вытворчага каапэраваньня, мы бачым абвастрэньне клясавае барацьбы ў вёсцы. Кулак усімі мерамі і спосабамі аказвае сапраціўленьне нашаму сацыялістычнаму наступленьню.

Разгорнутая сацыялістычная перабудова вёскі, далейшы наступ на капіталістычныя элемэнты, як ніколі ставяць перад партарганізацыямі задачу яшчэ большага ўзмацненьня работы па арганізацыі і аб‘яднаньню беднаты і батрацтва, па ўзмацненьню барацьбы з кулацтвам, яшчэ большага замацаваньня бядняцка-

серадняцкага блёку і строгага правядзеньня клясавае лініі ў штодзеннай практычнай рабоце ўсіх арганізацый.

Лепшым сродкам забясьпечаньня клясавай лініі ў рабоце саветаў, каапэрацыі, камітэтаў узаемадапамогі і інш. грамадзкіх арганізацый, зьяўляецца добра наладжаная работа ўнутры іх (саветаў, каапэрацыі, ККОВ) моцных сыстэматычна-плянава работаючых груп беднаты. Вось чаму трэба прыняць усе захады да іх замацаваньня і ажыўленьня.

**Групы беднаты—праваднікі дырэктыў партыі.**

Групы беднаты пад кіраўніцтвам сельячэек і паасобных камуністаў павінны быць актыўным праваднікам дырэктыў партыі і савецкай улады па сацыялістычнай перабудове вёскі, яны павінны служыць зброяй сплачэньня бядняцка-серадняцкіх мас і даваць рашучы адпор кулаку.

Групы беднаты павінны быць актыўнымі арганізатарамі работы свайго выбарнага воргану, забясьпечваючы правядзеньне клясавае лініі ў ім. Група беднаты—не адміністрацыйная арганізацыя і не замяняе выбарчыя ворганы, а толькі бядняцкая фракцыя ў іх, працуючы пад кіраўніцтвам партыі, энэргічна і да канца абараняючая свае пастановы.

Групы беднаты павінны быць не ізаляванай арганізацыяй унутры выбарчых ворганаў, а служыць зброяй сплачэньня ўсіх батрацка-бядняцкіх мас усяе вёскі навакол саветаў, каапэрацыі і камітэтаў узаемадапамогі. Вось галоўныя задачы і кірунак у рабоце груп беднаты, якія вызначаны неаднолькава дырэктыўнымі ўказаньнямі ЦК партыі і XII зьездам КП(б)Б.

Як-жа ў практычнай рабоце мясцовых партарганізацый выконваюцца гэтыя задачы па ажыўленьню работы груп беднаты?

Паглядзім перш за ўсё, які тэмп арганізацыі груп беднаты і пры якіх ворганах яны створаны. Тут мы маем весткі па 4 акругам (к слову сказаць астатнія акругі гэтых вестак ніяк сабраць ня могуць), але-ж іх досыць, каб зрабіць агульны па БССР вывад.

| №№ па чарзе | Назва акругі | Колькасьць груп беднаты: На 1\|X-1928 г. | Колькасьць груп беднаты: На 15\|V-1929 г. | Колькасьць арганізаваных на 15/V-29 г. груп беднаты пры: сельсаветах | К. С. У. | крэдытных таварыствах | спажывецкіх таварыствах | спэц. каапэрацыі | Колькасьць парт'ячэек па акрузе сельскага тыпу | Усяго членаў і кандыдатаў партыі ў гэтых ячэйках | З іх кандыдатаў партыі |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | Магілеўская . . | 134 | 198 | 153 | 30 | 10 | 5 | — | 125 | 1234 | 447 |
| 2 | Аршанская . . . | 159 | 208 | 122 | 56 | 12 | 18 | — | 112 | 1233 | 383 |
| 3 | Мазырская . . . | 83 | 129 | 74 | 27 | 13 | 15 | — | 75 | 944 | 372 |
| 4 | Віцебская (па 7 раёнам) . . . | 80 | 115 | 66 | 26 | 11 | 11 | 1 | 81 | 684 | 204 |
| | Усяго . | 456 | 650 | 415 | 139 | 46 | 49 | 1 | 393 | 4095 | 1406 |

З гэтай таблічкі відаць, што колькасьць груп беднаты па ўказаным 4 акругам узрасла на 194 новых груп альбо на 42,5 проц. Тэмп росту, бязумоўна, прызнаць здавальняючым ні ў якім разе нельга, і ён не адпа-

вядае рэчаістым магчымасьцям і наліччу як партыйных ячэек, гэтак і маючайся ў іх колькасьці камуністых; у сярэднім на адну партыйную ячэйку прыходзіцца ад паўтары да двух груп беднаты.

Большасьць груп беднаты (64%) выпадае на арганізацыю іх пры сельсаветах і гэта напэўна ня кепска, але-ж кепска тое, што партыйныя ячэйкі недаацэньваюць такую-жа важнасьць арганізацыі груп пры камітэтах узаемадапамогі і асабліва пры крэдытных таварыствах і сель.-гас. спэц. каапэрацыі, роля якіх як у пытаньнях рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, так і ў правядзеньні клясавай лініі, надзвычайна вялікая. Хіба мала выпадкаў скрыўленьня клясавай лініі пры выдачы крэдытаў крэдытнымі таварыствамі? Праўда, яны, у параўнаньні з мінулым годам, значна паменшыліся, але-ж прыклады Магілеўскай акругі (а гэта не выключэньне), дзе заможныя элемэнты атрымалі сем з лішкам процантаў з агульнай сумы ўсіх крэдытаў па акрузе, павінны прымусіць усе сельскія ячэйкі і раённыя камітэты стварыць партыйны кантроль пры садзейнічаньні груп беднаты над правядзеньнем клясавай лініі ў рабоце крэдытных таварыстваў. Трэба зараз-жа выканаць дырэктыву ЦК аб арганізацыі груп беднаты і наладжваньні іх работы пры ўсіх крэдытных таварыствах і там, дзе няма партыйных ячэек альбо паасобных камуністых, кіраўніцтва групамі беднаты пры крэдытных таварыствах павінна быць ускладзена на працаўнікоў раённага partактыву альбо бліжэйшую сельячэйку. Недапушчальна кепска абстаіць справа з арганізацыяй і афармленьнем груп беднаты пры сель.-гас., спэцыяльнай і саматужна-прамысловай каапэрацыях, тут месцамі амаль нічога ня зроблена і групы беднаты пры іх ня створаны, уплыў-жа заможных і кулацкіх элемэнтаў вёскі ў гэтых галінах каапэрацыі яшчэ значны.

Недастатковая колькасьць груп беднаты таксама пры камітэтах узаемадапамогі і спажывецкай каапэрацыі. З усяго гэтага райкомы і сельячэйкі павінны зрабіць адпаведныя вынікі і больш рашуча прыступіць да шырокай арганізацыі груп беднаты; магчымасьцяй тут яшчэ больш, каб забясьпечыць партыйнае кіраўніцтва ўмоў арганізаванымі групамі. Цэнтральны камітэт КП(б)Б вырашыў пытаньне аб магчымасьці допушчэньня да кіраўніцтва групамі беднаты паасобных найбольш пралетарскіх, моцных камсамольскіх ячэек, там дзе можна поўнасьцю забясьпечыць партыйны ўплыў. Трэба гэты досьлед таксама скарыстаць, але-ж надзвычайна пакуль асьцярожна трэба дапусьціць да кіраўніцтва групамі беднаты запраўды такія камсамольскія ячэйкі, якія цалком справяцца з гэтай работай пры сыстэматычным кантролі, інструктаваньні і дапамозе з боку РК КП(б)Б і сельпарт'ячэек.

Камсамольскія ячэйкі павінны дапускацца да кіраўніцтва групамі беднаты, як правіла, з асобага на гэта дазволу райкомаў партыі, а апошнія, перш чым вынесьці сваю аб гэтым пастанову, не павінны абмяжоўвацца пабочнай інфармацыяй аб становішчы гэтай камсамольскай ячэйкі, а праз асабістыя выезды на месца вывучыць запраўднае палажэньне справы. Ня кепска будзе, калі прадстаўнікі РК КП(б)Б у гэтакіх выпадках правядуць асабіста некалькі паседжаньняў груп беднаты і на жывым досьледзе павучаць камсамольскую ячэйку, як трэба кіраваць працаю групы беднаты.

Яшчэ з большай асьцярогай і ўвагай, згодна рашэньня ЦК, павінны дапускацца да кіраўніцтва паасобныя беднякі-калгасьнікі, якія цесна зьвязаны з партыяй і ведаюць лінію партыі, карыстаюцца аўтарытэтам сярод беднаты і дастаткова праявілі сябе на грамадзкай рабоце. Гэты досьлед павінен быць максымальна абмежаваны і ўводзіцца пакуль як выключэньне толькі ў тых выпадках, калі можна запраўды забясьпечыць поўны пар-

тыйны ўплыў і кіраўніцтва і, як правіла, у кожным паасобным выпадку з спэцыяльнага на гэта дазволу райкому КП(б)Б.

### Як працуюць групы беднаты.

Зараз паглядзім, як працуюць групы беднаты, якія маюцца дасягненьні і недахопы і як гэтыя недахопы зьнішчыць.

Зусім бясспрэчна, што ў рабоце цэлага шэрагу груп беднаты маюцца дасягненьні, што пры іх ініцыятыве і садзейнічаньні арганізаваны калгасы, с.-г. вытворчыя аб'яднаньні, што, дзякуючы гэтым групам беднаты, значна палепшылася работа саветаў, каапэрацыі, групы дапамагалі арганізацыі ўсёй беднаты, далейшаму замацаваньню бядняцка-серадняцкага блёку і г. д. Усе гэтыя добрыя бакі работы намі не павінны ўпускацца з віду, яны павінны быць шырока папулярызаваны, асабліва праз друк, і служыць прыкладам для астатніх. Але-ж, калі параўнаць дасягненьні з недахопамі работы груп беднаты, то недахопаў акажацца шмат больш, чым дасягненьняў, і мы павінны прызнаць, і гэта канстатавалі на нарадзе пры вясковым аддзеле ЦК КП(б)Б, што работа груп беднаты зьяўляецца найбольш слабым вучасткам у рабоце ячэек. Яшчэ і да гэтага часу частка РК і ячэек недаацэньваюць важнасьці гэтай работы. Асноўнымі недахопамі ў рабоце груп беднаты зьяўляюцца: бесплянавасьць і бяссыстэмнасьць у іх рабоце. Зьмест работы груп беднаты не адпавядае задачам партыі і рэканструкцыі сельскай гаспадаркі. Слаба ўцягваецца ў работу груп беднаты батрацтва, групы слаба садзейнічаюць ажыўленьню работы свайго выбарнага воргану, і вельмі частыя выпадкі правядзеньня зачыненых сходаў, групы беднаты не абрасьлі шырокім батрацка-бядняцкім актывам.

Як відаць, недахопы надзвычайна вялікія. Ня прыняўшы рашучых мер да зьнішчэньня іх, нельга гаварыць аб палепшаньні работы груп беднаты. Ці можам быць зусім спакойны за пралетарскі ўплыў у групах беднаты, калі ў іх складзе па 4-х вышэйпаказаных намі акругах, маецца ўсяго 95 чал. батракоў, а па ўсёй Мазырскай акрузе толькі ўсяго 6 батракоў на 129 груп беднаты? Ці ўсё тут прадпрынялі нашыя сельячэйкі, каб прыцягнуць батрацтва ў работу груп беднаты? На жаль амаль нічога. А батракоў па БССР налічваецца каля 70.000 і амаль палова іх падае на паказаныя акругі. Чаму ячэйкі згубілі батрака—нашу пралетарскую апору ў саветах каапэрацыі? А што робяць райкомы партыі, каб дапамагчы сельячэйкам расшукаць батракоў на вёсцы і прыцягнуць іх да актыўнай работы груп беднаты? Ці ўсе акругкомы зацікаўлены гэтым пытаньнем і ці правяраюць свае дырэктывы? Вось важнейшыя пытаньні, якія павінны быць ва ўсю шырыню пастаўлены перад кожнай нізавой партыйнай арганізацыяй, перад кожным партыйцам у паасобку, і на грунце прынятых ЦК рашэньняў павінны зараз-жа атрымаць сваё поўнае разьвязаньне ў практычнай рабоце сельскіх ячэек. Таму, аднэй з асноўных задач сельячэек зьяўляецца—улічыць батракоў свайго раёну і прыняць усе захады да таго, каб прывабіць да актыўнай работы груп, ня толькі батракоў выбарчага воргану, але-ж і ўсё батрацтва данага сяла і па магчымасьці вакольных вёсак. Пытаньні эканамічнай абароны правоў батрака павінны атрымаць поўнае адлюстраваньне ў рабоце груп беднаты і іх выбарчых ворганаў.

### Зьнішчыць бесплянавасьць.

Большасьць груп беднаты да гэтага часу займаліся пытаньнямі кампанійскага характару. Зараз-жа, калі партыя практычна падышла да пытаньня рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, трэба рашуча і самы зьмест работы груп беднаты перабудаваць на выкананьне гэтай асноўнай задачы. У цэнтры ўвагі груп беднаты павінны быць пастаўлены

пытаньні калектывізацыі, вытворчага каапэраваньня, масавы пад'ём па сацыялістычнаму спаборніцтву, падняцьце ўраджайнасьці і правядзеньне аграмінімуму, культурная работа, замацаваньне бядняцка-серадняцкага блёку і наступленьне на капіталістычныя элемэнты вёскі.

Чаму гэтыя важнейшыя асноўныя пытаньні не атрымалі пэўнай адлюстраванасьці ў рабоце большасьці груп беднаты? Таму, што групы працуюць бясплянава, а бясплянавасьць у сваю чаргу прыводзіць да нерэгулярнасьці пасяджэньняў, бяссыстэмнасьці, упускаюцца асноўныя пытаньні, групы робяць свае пасяджэньні ад выпадка да выпадку і таму мы маем такое становішча, калі значная частка груп беднаты (асабліва пры КСУ) не працуюць, альбо калі-ні-калі засядаюць. Вось, напрыклад: па Мазырскай акрузе—з 1-га студзеня па 15-ае мая 1929 году ўсе маючыяся па акрузе 129 груп правялі ўсяго толькі 164 паседжаньні; па Віцебскай акрузе—у сярэднім падае паседжаньняў сельсавецкай групы 1 раз у два месяцы, у камітэце ўзаемадапамогі—1 раз у тры месяцы; у крэдытным таварыстве—1 раз у два м-цы.

Трэба зараз-жа пакончыць з бясплянавасьцю і бяссыстэмнасьцю ў рабоце груп беднаты, усе яны павінны быць пераведзены на плянавую работу, у аснову іх плянаў павінны быць пакладзены паказаныя вышэй пытаньні і канкрэтна ўжыты ва ўмовах данага сяла.

Пляны работ груп беднаты папярэдне зацьвярджаюцца на сходзе партыйнай ячэйкі, а потым абгаварваюцца на паседжаньні групы з шырокім прыцягненьнем на апошнія батрацка-бядняцкіх мас.

Трэба катэгарычна адмовіцца ад правядзеньня зачыненых паседжаньняў груп беднаты.

Каб прасачыць за выкананьнем рашэньняў груп беднаты, неабходна на кожным паседжаньні групы рабіць інфармацыю аб выкананьні пастановы, прынятай на папярэднім паседжаньні. Каб больш зьвязаць работу групы беднаты з шырокімі батрацка-бядняцкімі масамі, каб падняць больш аўтарытэт груп трэба ўвесьці ў сыстэму пэрыядычныя справаздачы кіраўнікоў груп беднаты на партыйных сходах, з максымальным прыцягненьнем на гэтакія сходы шырокіх батрацка-бядняцкіх мас.

## Як трэба арганізаваць работу груп.

Вельмі часта, калі запытаеш сакратара сельячэйкі, чаму не арганізавана група беднаты пры сельсавеце, камітэце ўзаемадапамогі альбо каапэрацыі, пачуеш адказ — „Яна там не патрэбна таму, што пры гэтым выборчым воргане—членам праўленьня ў большасьці зьяўляецца бядняк, і правядзеньне клясавай лініі будзе забясьпечана(?)“ Ці правідловы гэтакі адказ? Не, зусім не правідловы. Гэтак адказваць, значыць нічога не разумець аб ролі і задачах груп беднаты. Ці трэба арганізоўваць групы беднаты ў тых выбарчых ворганах, дзе ў большасьці членамі яго зьяўляецца беднata? Бясспрэчна трэба. Па-першае, група беднаты павінна зьяўляцца нявузка-замкнутай бядняцкай арганізацыяй унутры выбарчага воргану, а служыць зброяй сплачэньня навакол сябе шырокіх батрацка-бядняцкіх мас, мобілізуючы іх увагу на задачах па сацыялістычнай перабудове вёскі, узмацняючы бядняцка-серадняцкі блёк і рашучае наступленьне на кулака. Па-другое, група беднаты ёсьць таксама школа палітычнага выхаваньня батрацка-бядняцкага актыву на нізавой практычнай рабоце, падрыхтоўваючая гэты актыў да высоўваньня на кіруючую работу ва ўсе зьвеньні нашых апаратаў і асабліва—сельскага і раённа-акруговага зьвяна.

Можна таксама пачуць пытаньні сакратароў сельячэек і кіраўнікоў груп беднаты, якія запытваюць: „А пры якіх выбарчых ворганах трэба лічыць неабходнай групу беднаты? Якую з іх (пры с/сав., КСУ, каапэрацыі) патрэбна ў першую чаргу ажывіць?“ На гэта трэба ад-

казаць, што ўсе групы беднаты важны і ўсе яны павінны быць ажыўлены ў іх рабоце.

Перад усімі партыйнымі ячэйкамі павінна быць пастаўлена задача ўзмацненьня іх увагі да пытаньня падняцьця культурна-палітычнага ўзроўню ўсіх членаў груп беднаты. Тут неабходна поўнасьцю і больш рашуча скарыстаць усе мэтады, якія маюцца ў гэтай галіне, як запрашаньне членаў груп беднаты на адчыненыя партыйныя сходы, вярбоўку іх у палітшколы і гурткі, якія існуюць пры сельячэйках, выпіска газэт, часопісей, асабліва сельска-гаспадарчага значэньня. А ўсіх няпісьменных членаў груп беднаты, у прыватнасьці батракоў, завербаваць у лікпункты. Уся выхаваўчая работа павінна ў большай ступені, чым да гэтага часу, дапамагаць росту партыі за лік батракоў і беднякоў калгасьнікаў.

Трэба ў значнай ступені і работу самых груп беднаты накіраваць на вырашэньне культурна-бытавых пытаньняў вёскі (школа, лікпункт, хата-чытальня, бібліатэка, распаўсюджваньне газэт і г. д.) і каб гэтыя пытаньні адлюстраваліся ў плянах работ і прапрацоўваліся на паседжаньнях груп беднаты і бядняцкіх сходах.

Увага РК і партыйных ячэек павінна быць завострана на далейшым замацаваньні бядняцка-серадняцкага блёку ва ўсёй практычнай рабоце з беднатой. Трэба катэгарычна зьнішчыць выпадкі ігнараваньня інтарэсаў серадняка ў рашэньнях бядняцкіх сходаў, і недапускаць больш такіх зьявішч, калі раённая нарада (Глускі раён, Бабруйскай акругі) груп беднаты ад імя беднаты выклікае на сацыялістычнае спаборніцтва толькі адну беднату (а дзе серадянкі?) другога раёну. Альбо ячэйка Казулічы (Бабруйскага раёну) не дапускала серадняко ў у арцелі, якія арганізаваліся з беднаты, альбо выпадак, калі серадняк не дапускаецца на сход беднаты (Мазырская акруга), чым супрацьставіцца беднаце і блёкіруецца з заможнымі.

**За жывое кіраўніцтва.**

Пытаньне партыйнага кіраўніцтва работы з беднатою павінна стаць у цэнтры ўсіх партыйных арганізацый. Акругкомы і райкомы партыі павінны ў большай ступені, чым да гэтага часу, прысьці жывым і асабістым удзелам у практычнай дапамозе сельскім ячэйкам. Бо нельга-ж прызнаць нармальным такое цыркулярнае ўказаньне Глускага РК КПБ усім сваім сельячэйкам, каб за адзін раз на сходах беднаты былі-б прапрацованы такія важнейшыя пытаньні як: 1) вынікі XVI партканфэрэнцыі, 2) аб сел.-гасп. падатку, 3) выбары ў сельск.-гасп. каапэрацыю, 4) аслабаненьне беднаты ад сел.-гасп. падатку, 5) індывідуальнае абкладаньне кулакоў. Упаўне зразумела, што ніводнае з гэтых пытаньняў ня было дастаткова прапрацавана. Па выніках XVI канфэрэнцыі прынята рэзалюцыя агітацыйнага характару (вёска Вайтэнкава) а ў аднэй з вёсак па задачам перавыбараў сел.-гасп. крэдытн. каапэрацыі пастанавілі: „Трэба заўжыць захады да збору запазычанасьці і дапамагчы ў перавыбарах каапэрацыі“ і РК не рэагаваў на гэтакую пастанову, а ячэйкі не ўказалі РКому на яго недахопы ў вялізарнасьці рэкамэндуемага парадку дня. Трэба папяровае кіраўніцтва райкомаў ячэйкамі па рабоце з беднатой максымальна замяніць жывым кіраўніцтвам і інструктаваньнем. Трэба, каб горад праз свае брыгады, шэфскія таварыствы, ўнештатны інструктаж больш прышоў на дапамогу сельячэйкам па рабоце з беднатой. Трэба разгарнуць самакрытыку сярод беднаты. Акругкомам і райкомам трэба наладзіць запраўдную дапамогу і праверку выкананьня сваіх дырэктыў. Трэба ва ўсіх сельячэйках і групах беднаты глыбока прапрацаваць пастановы нарады загадчыкаў вясковымі аддзеламі па рабоце з беднатою і зрабіць рашучы пералом.

*М. Манжалей.*

# У ЦЭНТРАЛЬНЫМ КАМІТЭЦЕ КП(б)Б.

## Аб ітогах палітычнай і гаспадарчай работы сярод беднаты і далейшых задачах.

*(Пастанова нарады загадчыкаў аддзелаў АК КП(б)Б па рабоце ў вёсцы, зацьверджаная сакратарыятам ЦК 15/VII-29 г.)*

1. Адзначыць наступныя дасягненьні ў рабоце па гаспадарча-палітычнай арганізацыі беднаты і батрацтва:

а) узмацненьне бядняцка-серадняцкага блёку; рост палітычнай актыўнасьці беднаты і батракоў і павялічэньне іх удзельнай вагі і ўплыву ў Саветах, коопэрацыі. Пашырэньне практыкі правядзеньня сходаў беднаты, колькасны рост груп беднаты і некаторае палепшаньне якасьці іх работы;

б) значнае павялічэньне гаспадарчай дапамогі беднаце па лініі калектывізацыі, вытворчага каапэраваньня, росту фондаў крэдытаваньня і каапэраваньня беднаты, прадстаўленьня ільгот і г. д.

Усе гэтыя мерапрыемствы ў значнай ступені садзейнічалі эканамічнаму ўздыму бядняцкіх гаспадарак, аслабаненьню беднаты і батракоў ад эканамічнай залежнасьці ад кулака і далейшаму росту аўтарытэту партыі і Савецкай улады ў вёсцы.

2. Адзначыць наступныя недахопы ў рабоце сярод беднаты:

а) усё яшчэ нізкая якасьць работы груп і сходаў беднаты. Надта слабае ўцягненьне ў працу груп беднаты—батрацтва і актыву беднаты. Работа груп беднаты ня ўвязваецца з задачай узмацненьня і ажыўленьня работы тых ворганаў, пры якіх існуюць групы. Большасьць партарганізацый нездавальняюча выконвае дырэктывы ЦК аб арганізацыі новых груп і ўзмацненьні работы старых груп беднаты. Зусім недастатковая сетка груп пры крэдытных таварыствах, КСУ. Ня выканана дырэктыва ЦК большасьцю партарганізацый аб правядзеньні агляду груп беднаты, так як ён праведзен фармальна і ня быў увязан з задачамі ўзмацненьня іх работы;

б) ня зжыты выпадкі правядзеньня зачыненых сходаў беднаты і асабліва пасяджэньняў груп беднаты і ігнараваньня інтарэсаў серадняка ў рашэньнях сходаў беднаты і груп (Глуск, Мазыр і г. д.)

в) нездавальняюча праводзіцца работа па каапэраваньню беднаты, асабліва ў спэцыяльныя віды і саматужна-прамысловую каапэрацыю. Несваечасова скарыстоўваюцца фонды крэдытаваньня і каапэраваньня беднаты. Выпадкі скрыўленьня клясавай лініі пры крэдытаваньні, каапэраваньні і прадстаўленьні ільгот беднаце. Слабая дапамога бясконным і безінвэнтарным гаспадаркам; ня ўдзелена дастатковай ўвагі на арганізацыю беднаты і батракоў вакол лесараспрацовак і сплаву лесу.

г) прадстаўляемая гаспадарчая дапамога беднаце ў практыцы месц слаба палітычна-арганізацыйна замацоўваецца і недастаткова ўвязваецца з праяўленьнем гаспадарчай ініцыятывы самой беднаты, асабліва па лініі яе калектывізацыі і вытворчага каапэраваньня, у сувязі з чым яшчэ не канчаткова зжыты сабесаўскія настроі;

д) слаба выконваюцца дырэктывы ЦК па палепшаньню культурнай работы сярод беднаты і батракоў, асабліва па лініі ліквідацыі няпісьменнасьці і ахопу іх дзяцей усімі відамі школ. Недастаткова вакол гэтае справы арганізавана грамадзкая самадзейнасьць і ініцыятыва, а таксама няпоўнае, несваечасовае, а месцамі няправільнае скарыстоўваньне школьных фондаў



беднаты (Магілеўская, Аршанская і інш. акругі.).

3. Слабасьць работы сярод беднаты і батрацтва ў асноўным тлумачыцца недаацэнкай важнасьці гэтае работы з боку часткі РК і сельячэек, нездавальняючай практычнай дапамогай і інструктаваньнем з боку Райкомаў і Акругкомаў і адсутнасьцю праверкі выкананьня дырэктыў.

4. Соцыялістычная перабудова вёскі, абвастрэньне клясавай барацьбы, далейшае наступленьне на капіталістычныя элемэнты, ставяць перад партарганізацыямі з усёй сур'ёзнасьцю задачу значнага ўзмацненьня і паглыбленьня работы па арганізацыі беднаты і батрацтва і далейшага падняцьця іх актыўнасьці, яшчэ большага ўзмацненьня бядняцка-серадняцкага блёку і строгага правядзеньня клясавай лініі ў рабоце ўсіх арганізацый. Групы беднаты, як і ўся бедната ў вёсцы павінны быць падрыхтаваны дзеля наступленьня на капіталістычныя элемэнты, прымаць актыўны ўдзел у гэтым наступленьні.

## У далейшым неабходна:

### Па групах беднаты:

5. а) Уся работа з беднатой і асабліва з групамі беднаты, павінна быць у большай ступені, чым да гэтае пары накіравана на ажыўленьне работы ўсіх выбарчых органаў, пры якіх існуюць групы і арганізацыі беспартыйнага актыву вакол партячэек, сэльсаветаў, КСУ і каапэрацыі. Усе групы беднаты зараз-жа павінны быць пераведзены на плянавую работу, пляны іх павінны будавацца тэрмінам на 3-4 месяцы, у аснову плянаў пакласьці пытаньні калектывізацыі, вытворчага каапэраваньня, арганізацыі прасьцейшых відаў сельска-гаспадарчых аб'яднаньняў і інш. пытаньні жыцьця і быту вёскі, адбываемыя ў плянах яч. і сваіх выбарчых органаў.

б) РК і ячэйкам у месячны тэрмін арганізаваць групы беднаты пры ўсіх крэдытных таварыствах, у тых-жа пунктах, дзе няма парт'ячэек альбо асобных камуністых, кіраўніцтва гэтымі групамі, павінны ўзяць на сябе работнікі раённага партактыву.

в) У вёсках, дзе маюцца парт'ячэйкі ці асобныя камуністыя, павінны быць у 1½ месячны тэрмін арганізаваны групы беднаты пры ўсіх праўленьнях спэцыяльнай сельска-гаспадарчай, саматужна-прамысловай і спажывецкай каапэрацыі.

г) Катэгарычна забараніць правядзеньне зачыненых сходаў груп беднаты, дабіваючыся поўнай гласнасьці іх работы праз вынясеньне аб'яў з абвесткай дню і спэцыяльнага запрашэньня на гэтыя пасяджэньні актыўных беднякоў і батракоў і ня членаў груп беднаты, а таксама і батрачак, бяднячак і дэлегацкіх сходаў, дапускаючы прысутнасьць серадняцкага актыву. Групы беднаты павінны рабіць пасяджэньні ў вольны час ад пасяджэньняў выбарчага воргану і калі бедната не занята ў рабоце сваёй гаспадаркі.

д) Па рашэньню РК, дапусьціць да кіраўніцтва групамі беднаты кандыдатаў партыі, якія поўнасьцю могуць справіцца з гэтай задачай.

е) Неабходна разгарнуць працу па арганізацыі груп беднаты пры ўсіх сельсаветах; таксама каапэратывах, дапускаючы арганізацыю груп і ў тых вёсках, дзе няма парт'ячэек, але магчыма забясьпечыць партуплыў на групу праз ячэйку КСМ, шляхам прымацаваньня асобных камуністых, а таксама шляхам вылучэньня ў склад кіраўнікоў груп беднаты, беднякоў і колгасьнікаў, цесна зьвязаных з партыяй.

ж) Пры местачковых саветах і КСУ групы беднаты павінны складацца з камуністых, батракоў, комсамольцаў, беднякоў-сялян.

з) Перад правядзеньнем агульных сходаў беднаты па ўсіх вёсках с/с па аднаму і таму-жа пытаньню, абавязкова праводзіць аб'яднаныя пасяджэньні ўсіх груп беднаты данага сельсавету, мэтай папярэдняй

прапрацоўкі пытаньняў і падрыхтоўкі да гэтага бядняцкага актыву, пры правядзеньні-ж бядняцкіх сходаў толькі па асобным вёскам склікаць нарады ўсіх членаў груп беднаты данага сяла-вёскі, сумесна з бядняцкім актывам і ня членаў выбарчых органаў.

і) На кожным пасяджэньні груп беднаты і агульным бядняцкім сходзе кіраўнікі групамі беднаты абавязкова павінны рабіць інфармацыю аб выкананьні ранейшых рашэньняў, апрача гэтага, пэрыядычна (1 раз у 3-4 месяцы) практыкаваць даклады кіраўнікоў груп на адчыненых партсходах, з максымальным прыцягненьнем на гэткія беднаты і батрацтва.

### Уцягненьне батракоў у працу груп беднаты.

6. а) Усіх батракоў выбарчых органаў абавязкова запрашаць на пасяджэньні груп беднаты, і агульныя сходы беднаты, а таксама запрашаць батракоў і не сяброў выбарчых органаў, пражываючых ня толькі ў данай вёсцы, але і ў акаляючых.

б) Пры чарговых перавыбарах с/с пашырыць склад іх Прэзыдыуму з мэтай большага прыцягненьня батракоў і для ўзмацненьня іх уплываў у групах беднаты пры КСУ.

в) У рабоце сельсаветаў і КСУ дабіцца большага пералому і ўвагі да пытаньняў батрацтва, як па эканамічнай абароне іх інтарэсаў (працдагаворы, арганізацыя арцеляй і г. д.), так і па культурнаму іх абслугоўваньню (школы., лікпункты і г. д.)

г) Даручыць ЦП С. Г. і Л. Р. і Белсельтрэсту распрацававаць мерапрыемствы па ўцягненьні батракоў (пражываючых вакол саўгаспадарак) на курсы, праводзімыя ў саўгаспадарках дзеля сельгасп. рабочых).

д) АК і РК прыступіць да рашучага выкананьня дырэктыў XII-га зьезду КП(б)Б па падрыхтоўцы батрацтва ў партыю ў прыватнасьці практыкаваць побач з шэрагам мерапрыемстваў, арганізацыю каротка-тэрміновых курсаў, аднача́сова прыняўшы захады да аховы батрацтва ўсімі палітгурткамі пры ячэйках і найбольшай сувязі сельпартарганізатараў з батрацтвам.

### Аб сходах беднаты.

7. а) Катэгорычна забараніць правядзеньне зачыненых сходаў беднаты, запрашаючы на іх блізкіх нам актыўных серадняков, аднача́сова не дапушчаць на сходы беднаты яўна кулацкіх, заможных элемэнтаў і ўсіх пазбаўленых выбарчага права.

б) Агульныя сходы беднаты павінны значна больш займацца вырашэньнем мясцовых гаспадарчых і культурных пытаньняў (калектывізацыя, вытворчае каапэраваньне, землеўпарадкаваньне, уздым ураджайнасьці, соц. спаборніцтва, крэдытаваньне, школы, лікпункты, пажарныя мерапрыемствы, арэнда зямлі, дарожнае будаўніцтва і г. д.)

в) Сходы беднаты праводзіць не пазьней як за 2-3 дні да агульнасялянскіх сходаў, дзень, гадзіна, месца і абвестка дню павінны быць шырока апублікаваны праз вывешваньне аб'яў, спэцыяльных апавяшчэньняў усей беднаты і батрацтва. Абвестка сходу павінна быць папярэдне прапрацована на сходах парт. комс. яч.

г) У вёсках, дзе яшчэ маецца моцны кулацкі ўплыў на беднату, праводзіць, акрамя агульных сходаў бядноты (мужчын і жанчын) пэрыядычна спэцыяльныя сходы жанчын-бяднячак і батрачак па растлумачэньню ім клясавай самасьвядомасьці, важнасьці пытаньняў колектывізацыі, вытворчага каапэраваньня і г. д.

### Акруговыя канфэрэнцыі і раённыя нарады груп беднаты.

8) а) Раённыя нарады груп беднаты павінны праводзіцца 3-4 разы ў год, а акруговыя канфэрэнцыі— ня менш аднаго разу ў год, добра падрыхтоўваючы і прапрацоўваючы пытаньні, стаячыя на гэтых канфэрэнцыях-нарадах, прымаючы хуткія меры да рэалізацыі іх рашэньняў на

мясцох у вёсцы і рабіць справаздачу на пасьледуючых канфэрэнцыях аб выкананьні рашэньняў папярэдніх.

б) Раённыя і акруговыя канфэрэнцыі павінны значна больш займацца вырашэньнем практычных мерапрыемстваў гаспадарчых і культурна-бытавых пытаньняў вёскі.

в) Увесьці ў практыку пэрыядычнае скліканьне пад'раённых куставых нарад груп беднаты.

г) З наглядаючымся зараз скрыўленьнем клясавай лініі (у пытаньнях: калектывізацыі, вытворчага каапэраваньня, землеўпарадкаваньня, крэдытаваньня і інш.) павінна быць паведзена самая рашучая барацьба.

д) На раённых нарадах груп беднаты, як правіла, павінны абавязкова прысутнічаць кіраўнікі гэтых груп.

е) Увесьці ў практыку пэрыядычныя (2-3 разы ў год) раённыя нарады аднолькавых груп беднаты (асобна сельсавецкіх, КСУ, каапэрацыі) па прапрацоўцы практычных іх пытаньняў.

ж) РК раз у 3 месяцы праводзіць раённыя нарады кіраўнікоў груп беднаты па пытаньням інструктаваньня і далейшых задач работы груп беднаты.

### Дапамога беднаце.

9. а) Гаспадарчая дапамога беднаце павінна быць увязана з праяўленьнем гаспадарчае ініцыятывы самой беднаты, палітычна і арганізацыйна ўзмацняцца і ў большай меры, чым да гэтае пары. Садзейнічаць калектывізацыі, вытворчаму каапэраваньню і поўнаму зжыцьцю сабесаўскіх настрояў беднаты.

б) Шырэй разгарнуць работу па ўцягненьню бясконных і бязінвэнтарных гаспадарак і калгасы і спэцыяльныя віды с.-г. каапэрацыі, адначасова ў большай меры, чым да гэтае пары, арганізоўваючы ім дапамогу ўспашкай, абсеменьнем палёў, прадстаўленьнем с.-г. інвэнтара, арганізацыі супраг праз саўгасы, калгасы, перасовачныя с.-г. майстэрні, нядзельнікі і г. д.

в) Фр. цэнтральных і акруговых каапэрацыйных органаў больш устанавіць сыстэматычны кантроль за правільным і своячасовым скарыстаньнем фонду крэдытаваньня і каапэраваньня беднаты. Зьнішчыць выпадкі мэханічнага разьверстаньня гэтых фондаў без належнага вучоту і нуждаемасьці кожнае акругі, раёну, сяла. Прыняць меры да неадкладнага скарыстоўваньня фонду каапэраваньня беднаты па ўсім відам каапэрацыі. Ускласьці пэрсанальную адказнасьць на кіраўнікоў каапэрацыйных арганізацый за своечасовае і правільнае скарыстоўваньне фондаў крэдытаваньня і каапэраваньня беднаты, а АК і РК пільна сачыць за сваячасовым і правільным выкананьнем гэтае дырэктывы, прыцягваючы вінаватых да суровай судовай адказнасьці.

г) Даручыць ЦК КСУ і С.-Г. і Л. Р. неадкладна разгарнуць падрыхтоўчую працу па шырокай арганізацыі да вясеньня-зімовага пэрыяду сталых арцеляў з беднаты і батракоў для ўдзелу іх у лесараспрацоўках і ў $1^1/_2$ месячны тэрмін зацікаўленым гаспадарчым арганізацыям вырашыць пытаньне аб папярэднім авансіраваньні юрыдычнааформленых арцеляў на сродкі іх вытворчасьці (пакупка коняй, пілы, сякеры, адзеньня і г. д.).

10. Адзначая праведзеную гаспадарчую работу сярод беднаты нацменшасьцяў (землябудаўніцтва, калектывізацыя, каапэраваньне) нарада лічыць, што палітычная работа, асабліва сярод палякаў, латышоў і літоўцаў, пастаўлена яшчэ слаба, яшчэ значна адчуваецца сярод нацменшасьцяй у большай меры, чым у беларускай вёсцы, уплыў кулацтва і клерыкалізму, і што няпоўнасьцю зжыты выпадкі, калі клясавая самасьвядомасьць нацменшасьцяй затушоўваецца перад разуменьнем нацыянальнага блёку.

### Што неабходна зрабіць.

а) Пры ўсіх нац. сельсаветах і КСУ арганізаваць групы беднаты.

б) Не адлучаючы работы з беднатой нацменшасьцяй ад агульнай работы з усёй беднатой, неабходна ў тых пунктах, дзе адчуваецца вялікі ўплыў на нацменшасьці кулакоў, клерыкалізму, і затушоўваецца клясавая самасьвядомасьць, больш рашуча ўнесьці элемэнты клясавага расслаеньня нацменшасьцяй, шляхам узмацненьня агульнай работы з беднатой, праз частыя правядзеньні сходаў беднаты, нарады груп беднаты і нясупыннага растлумачэньня беднаце клясавых яе інтарэсаў і ўзмацніць інтэрнацыянальнае выхаваньне беднаты.

11. Завастрыць увагу ўсіх партыйных арганізацый на рашучае выкананьне дырэктыў ЦК аб узмацненьні культурнай работы сярод беднаты і батрацтва, асабліва па лініі ліквідацыі няпісьменнасьці, ахопу школамі ўсіх відаў, своечасовага і правільнага скарыстоўваньня школьных фондаў беднаты, арганізацыі інтэрнатаў і г. д., вакол культурнае работы, ліквідацыі няпісьменнасьці і школьнага навучаньня шырэй арганізаваць грамадзкую самадзейнасьць і работу разгарнуць такім тэмпам, каб намечаныя мерапрыемствы ў гэтай галіне пяцігодкай былі-б поўнасьцю выкананы.

12. Шырэй разгарнуць практыку па асьвятленьню работы сярод беднаты ў цэнтральным і мясцовым друку, а таксама ў насьценгазэтах.

13. Усім парторганам выканаць дырэктыву ЦК аб арганізацыі своечасовай праверкі выкананьня дырэктыў.

14. Увесьці ў практыку работы партыйных камітэтаў пэрыядычнае заслухоўваньне спэцыяльных дакладаў сакратароў РК і яч. на Бюро і на пленумах АК і РК КП(б)Б аб гаспадарчай і палітычнай арганізацыі вясковай беднаты і батрацтва і далейшых задачах.

# Аб становішчы працы КСУ і мерапрыемствах па іх узмацненьню.

*(Пастанова нарады загадчыкаў вясковымі аддзеламі АК КП(б)Б, зацьверджана сакратарыятам ЦК 15-VII-29 г.).*

Ня гледзячы на некаторае палепшаньне становішча і працы КСУ за мінулы год (пашырылася вытворчая дапамога, павялічылася каапэраваньне на сродкі КСУ бядняцкіх гаспадарак, пашырана арганізацыя розных вытворчых аб'яднаньняў, палепшыўся ўдзел у правядзеньні пасеўных кампаній, маецца некаторы рост натуральных фондаў і г. д.), нарада адзначае, што пастановы XV зьезду УсеКП(б) і дырэктывы ЦК КП(б)Б аб узмацненьні працы КСУ, не знайшлі дастатковага практычнага адбітку ў працы КСУ і што няма належнага пералому ў працы партыйных арганізацый у бок большага забесьпячэньня кіраўніцтвам і аказаньня практычнай дапамогі ў працы КСУ.

Нарада адзначае, з найбольш грунтоўных, наступныя недахопы:

1. Засьмечанасьць у шэрагу мейсц сельскіх КСУ кулацкімі, падкулачнымі і іншымі варожымі антысавецкімі элемэнтамі (Староруднянскі СКСУ Жлобінскага раёну, Ліпаўскі СКСУ Калінкавіцкага раёну, Бараўскі СКСУ Заслаўскага раёну, Каменскі СКСУ Горацкага раёну, Путчанскі СКСУ Койданаўскага раёну і г. д.). Недастатковая арганізаванасьць батрацтва і беднаты абранай у кіруючыя органы. Надзвычайна мала арганізавана груп беднаты і не наладжана праца арганізаваных груп. Зусім недастатковы ўдзел у працы КСУ батрацтва.

2. Непрацаздольнасьць значнай часткі кіруючага складу сельскіх камітэтаў і амаль паловы старшынь раённых камітэтаў, надта частая зьмена апошніх, даходзячая да 5-6 раз у год. Адсутнасьць належнай

дапамогі і інструктаваньня сельск. КСУ з боку рай. КСУ, акрупаўнаважаных і савецкіх ворганаў. Дзякуючы чаму, досыць часты ў практычнай працы КСУ скрыўленьні клясавай лініі і выпадкі скарыстоўваньня КСУ кулацкімі элемэнтамі.

3. Усё яшчэ слаба разьвіты грамадзкія мэтады працы КСУ. Нерэгулярная, а мейсцамі поўная адсутнасьць справаздачнасьці перад сябрамі таварыства, і надта слаба разгорнута самакрытыка. Неналаджана работа рэвізійных камісій. Амаль ніякай работы не праводзіцца з актывам. Недастатковы ўдзел КСУ ў праводзімых масавых палітычных і гаспадарчых кампаніях і зусім слабы ўдзел КСУ ў культасьветнай працы на вёсцы.

4. КСУ ўсё яшчэ не перабудавалі сваёй працы ў напрамку большага аказаньня вытворча-калектыўнай дапамогі бядняцкім і маламоцным серадняцкім гаспадаркам, а таксама і індывідуальная дапамога разгорнута недастаткова, у сувязі з чым аўтарытэт КСУ сярод бядняцка-серадняцкіх мас, за выключэньнем нязначнай часткі, усё яшчэ нізкі.

Асноўнай і галоўнейшай задачай КСУ на бліжэйшы час павінна зьявіцца задача ўсямернага разгортваньня работы па шырокаму разгортваньню калектыўна - вытворчай дапамогі беднаце і маламоцнаму серадняцтву, разам з гэтым аказваючы і індывідуальную дапамогу.

Выходзячы з гэтага лічыць неабходным:

1. АК і РК КП(б)Б забясьпечыць сапраўднае кіраўніцтва працай КСУ, узмацніўшы практычную дапамогу і кіраўніцтва з боку ячэек, прыцягнуўшы да больш шырокага ўдзелу ў працы КСУ комсамольскія арганізацыі.

Устанавіць праз інструктарскі апарат РК рэгулярную праверку выкананьня дырэктыў і дапамогу нізавым парт. ворганам у кіраўніцтве імі КСУ.

Арганізаваць пры выбарных ворганах КСУ фракцыі КП(б)Б і рэгулярна заслухоўваць даклады аб іх працы.

Райкомам партыі спэцыяльна абгаварыць пляны працы КСУ на 1929-1930 г.

2. АК прасачыць і дабівацца замацаваньня на далейшай працы КСУ апраўдаўшых сябе таварышоў, канчаткова зьнішчыўшы практыку частых зьмен старшынь КСУ. Пераглядзець і ўзмацніць склад акруговых упаўнаважаных, накіраваўшы на гэту працу больш падрыхтаваных працаўнікоў.

Бяз ведама АК Райкомы не павінны перакідваць старшынь рай. КСУ.

3. Прадстаячую перавыбарчую кампанію КСУ шырока выкарыстаць для ачышчэньня кіруючых органаў КСУ ад кулацкіх і іншых антысавецкіх элемэнтаў і для большага прыцягненьня на кіруючую працу батрацка-бядняцкага і серадняцкага актыву.

4. Арганізаваць пры СКСУ і РКСУ групы беднаты, забясьпечыць кіраўніцтва працай іх з боку партыйных ячэек.

Увесьці ў практыку работы рэгулярнае скліканьне сходаў беднаты для абгаварэньня практычных пытаньняў працы КСУ.

5. Для стварэньня большай магчымасьці разгортваньня самадзейнасьці бядняцка-серадняцкіх мас і большага ўцягненьня ў практычную працу КСУ батрацтва і беднаты, лічыць неабходным павялічыць колькасьць сяброў у сель. КСУ да 9 і 3 кандыдатаў і рэвізійных камісій да 5 чалавек, а таксама правесьці разбуйненьне ККОВ, арганізаваўшы КСУ пры больш буйных вёсках, налічваючых 100 і больш гаспадарак.

6. Неабходна забясьпечыць большае кіраўніцтва і дапамогу ў працы КСУ з боку выканаўчых камітэтаў (АВК і РВК). Увесьці ў практыку, што пры абсьледваньні і інструктаваньні інструктарскім складам саветаў нізавых ворганаў, павінна правярацца адначасова праца і інструктавацца працаўнікі КСУ, а пры заслухоўваньні дакладаў РВК

у АВК, заслухоўваньня садакладаў і рай. КСУ.

7. У сваей далейшай рабоце КСУ ўзяць рашучы напрамак на максымальнае разгортваньне грамадзкасьці і самадзейнасьці, забясьпечыўшы ў працы КСУ строгае правядзеньне клясавай лініі, як у формах прыцягненьня грамадзкіх сродак і сіл, так і арганізацыі дапамогі. Разам з узмацненьнем дапамогі калгаснаму будаўніцтву і вытворчаму каапэраваньню, галоўным чынам, па лініі дапамогі бядняцкім гаспадаркам па ўваходу іх у калгасы, аказваючы дапамогу арганізаваўшымся калгасам, неабходна палепшыць дапамогу і індывідуальным бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам, галоўным чынам, на вытворчыя патрэбы (грамадзкая запашка, уборка і г. д.). КСУ узмацніць сувязь з калгасамі і калгаснымі аб'яднаньнямі, забясьпечыўшы ўваходжаньне калгасаў у КСУ, ЦК КСУ распрацаваць практычныя паказаньні аб парадку ўваходу калгасаў у КСУ.

8. Для вырашэньня і ўзмацненьня гаспадарчай базы КСУ неабходна:

а) фракцыі ЦК КСУ прыняць рашучыя захады па спагнаньню старай запазычанасьці, па сваечасоваму паступленьню ў далейшым сяброўскіх узносаў;

б) практыкаваць правядзеньне мэтавых узносаў на асобныя мерапрыемствы КСУ па разгортваньню вытворчай дзейнасьці і іншыя мерапрыемствы.

# Аб выкананьні Магілеўскім АК дырэктыў ЦК ад 3-III-1928 г.

(*Пастанова Бюро ЦК ад 28/VI-29 г.*)

1. Ня гледзячы на тое, што ЦК вынес рашэньні больш году таму назад, АК зрабіў толькі першыя крокі па шляху выкананьня дырэктыў ЦК; значная частка практычных указаньняў ЦК ня выканана.

2. ЦК адзначае, што пастанова ЦК слаба растлумачана ў ячэйках і недастаткова мабілізавана ўвага апошніх дзеля правядзеньня іх у жыцьцё.

3. АК недастаткова правёў у жыцьцё дырэктывы ЦК аб палепшаньні партыйнай і профэсіянальнай работы на прадпрыемстве „Спартак" і „Ільліч" на грунце ўсебаковага ўзмацненьня работы ў цэху, выхаваньня і згуртаваньня партыйнага актыву і наладжваньня работы групоргаў і цэхоргаў, у зьвязку з чым заметных палепшаньняў у гэтым напрамку няма; праявы хвасьцізму з боку нізавых парт. і проф. арганізацый, прымірэнтцкія адносіны да праяў антысэмітызму і шкодніцтва, а таксама ня было рашучай барацьбы з гэтымі зьявішчамі. Недастатковае выхаваньне і ўцягненьне ў практычную работу камуністых Кастрычнікаўскага закліку, галоўным чынам, і няўважлівыя адносіны пры прыёме, павялі да выхаду некаторай часткі з партыі. АК ня выканаў гэтую дырэктыву дзякуючы таму, што бюрократычна падышоў да кіраўніцтва партколектывамі гэтых прадпрыемстваў. Заслухаўшы даклад партколектываў, прызнаўшы іх работу нездавальняючай і зьняўшы сакратароў партколектываў з працы, АК нічога не зрабіў, каб мобілізаваць увагу парторганізацыі вакол асноўных недахопаў работы і жыцьця прадпрыемства, дырэктывы АК ня былі дастаткова прыстасаваны да спэцыфічных умоў работы (адлегласьць ад цэнтраў, уплыў вёскі, шмат рабочых маюць сваю гаспадарку і жывуць у вёсцы і г. д.). А галоўнае, што парторганізацыя аб рашэньнях АК ня ведала, нават рэзалюцыі АК у ячэйцы „Спартак" не аказалася.

Дырэктыва ЦК аб разгортваньні работы па барацьбе з праявамі антысэмітызму незнайшла свайго **кан-**

крэтнага праламленьня да таго, пакуль на „Спартаку“ і „Ільлічы“ ня здарыліся абураючыя выпадкі антысэмітызму. Па дакладам партколектываў гэтых прадпрыемстваў гэтае пытаньне завострана ня было.

Улічваючы асаблівасьці гэтых прадпрыемстваў АК неабходна разам з арганізацыйным узмацненьнем работы ў цэху, групоргаў, цэхоргаў і зьменоргаў, а таксама і якасьці палепшаньня работы па соцыялістычнаму спаборніцтву, асабліва ўнутры самаго прадпрыемства (паміж цэхамі, паасобнымі групамі і г. д.) зьмест усёй работы як у парторганізацыі, так і сярод рабочых накіраваць, *каб разьвіваць рэволюцыйную пільнасьць рабочых, навучыць рабочых разумець асноўныя формы клясавай барацьбы цяперашняга пэрыяду (антысэмітызм, шкодніцтва і г. д.), канкрэтныя, часам дробныя пытаньні,* адносін да працы і да вытворчасьці, неабходна *падымаць на палітычную вышыню* і на гэтых жывых фактах жыцьця прадпрыемства на посьпехах і недахопах выхоўваць клясавую сьвядомасьць рабочых, давая адпор праявам групавых і цэхавых інтарэсаў паасобных груп рабочых.

4. Адным з буйнейшых недахопаў зьяўляецца недастатковая ўвага і кантроль за соцыяльным напрамкам крэдыту, дзякуючы чаму заможнік і кулак у 1928 г. карыстаўся значнай доляй крэдытаў (7,1%).

ЦК прапануе АК канчаткова спыніць крэдытаваньне заможных і кулакоў. Зрабіць праверку соцыяльнага напрамку крэдытаў у 1929 г., завострыўшы вакол гэтага пытаньня ўвагу ўсёй партарганізацыі і арганізаваць сталы кантроль груп беднаты за разьмеркаваньнем крэдыту.

Адзначаючы ў рабоце АК некаторыя посьпехі ў разьвіцьці калгаснага будаўніцтва, значнае скарачэньне хутарской формы землякарыстаньня, павялічэньне травасеяньня і некаторае павялічэньне засеву тэхнічных культур, разам з гэтым ЦК адзначае, што слабасьць работы па падняцьцю ўраджайнасьці і таварнасьці сельскае гаспадаркі, у значнай меры тлумачыцца недастатковым тэмпам пераходу на шматпольле (34% да земляўпарадкаванай плошчы). Калгаснае будаўніцтва ідзе ў большасьці па шляху дробных аб'яднаньняў. АК ня выканаў дырэктывы ЦК аб узбуйненьні існуючых калгасаў.

Пытаньні ўзмацненьня тэмпу пераходу на шматпольле, кіраўніцтва калгасным будаўніцтвам, вытворчым коопэраваньнем, узмацненьне работы па кантрактацыі, арганізацыя соцыялістычнага спаборніцтва паміж калгасамі і саўгасамі, паасобнымі вёскамі, узбуйненьне і ўзмацненьне існуючых калгасаў,—вясковыя партарганізацыі павінны паставіць на першы плян. Скарыстаць, як апорныя пункты масавай работы на вёсцы, калгасы і саўгасы, арганізуючы пры іх хаты-чытальні, чырвоныя куткі, вытворчыя канфэрэнцыі і выстаўкі і г. д.

5. Ня выкананы дырэктывы ЦК аб рашучым пераломе па ўцягненьню ў партыю батракоў і с.-г. рабочых, у выніку гэтага, удзельная вага батракоў і с.-г. рабочых у арганізацыі на вёсцы нездавальняючая (па КПБ—18,8%, па Магілеўскай акр. 10,5%). Таксама значна адстае тэмп росту за кошт батракоў і с.-г. рабочых (за першы кв. 1929 г. па КП(б)Б у адносінах да вясковага прыёму прынята 39,5%, па акрузе—18,2%). Ня выканана дырэктыва ЦК аб вывучэньні становішча гаспадарак камуністых з пункту погляду іх колектывізацыі і копэраваньня (у колектывах 1%; партарганізацыя на вёсцы ўсё яшчэ не оьяўляецца авангардам масавага руху сялянства да ўздыму і колектывізацыі сельскае гаспадаркі (з 89 апрошаных гаспадарак камуністых толькі 18 згодны колектывізаваць гаспадарку і вядуць у гэтым напрамку работу, а астатнія пасыўны і супроць колектывізацыі). Камуністы, працуючыя ў сельскай гаспадарцы, зусім слаба ўдзельнічаюць у масавай агра - прапагандзе, камуністы-калгасьнікі вельмі слаба ідуць на агра-

маджаньне сродкаў вытворчасьці. Неабходна таксама адзначыць некаторае засарэньне парторганізацыі на вёсцы заможнымі элемэнтамі.

Пытаньні палепшаньня соцыяльнага складу вясковай парторганізацыі, рашучага ўцягненьня ў партыю батракоў і с.-г. рабочых, калектывізацыя і коопэраваньне гаспадаркі камуністых павінны быць цэнтрам увагі ўсёй парторганізацыі. Разам з чысткай організацыі ад чужых, акулачыўшыхся, праціўнікаў колектывізацыі, ЦК прапануе АК у найкарацейшы тэрмін правесьці неабходныя мерапрыемствы па ўзмацненьню тэмпа ўцягненьня ў партыю батракоў і сельска-гаспадарчых рабочых. Прыняць рашучыя меры па ўцягненьню камуністых у калгасы.

Указваючы на наяўнасьць праяўленьня ў практычнай рабоце некаторых парт. ячэек і паасобных партыйцаў, асабліва на вёсцы, правага ўхілу і прымірэнцкіх адносін да яго (зрашчываньне з заможнікамі, крэдытаваньне заможных, высоўваньне кулакоў у сьпісак ячэек, ігнараваньне калектывізацыі), ЦК прапануе Акругкому ўзмацніць барацьбу з праявамі правага ўхілу ў практычнай рабоце.

6. Ня выканана таксама дырэктыва ЦК аб ужыцьці рашучых мер да організацыі новых груп беднаты пры с/с і коопэрацыі, а таксама ўцягненьня батрацтва ва ўсе віды работы з беднатой, у выніку чаго, ня гледзячы на некаторы рост груп, работа іх надзвычайна слабая. Зусім мала ўцягнута батрацтва ў работу груп. АК неабходна прыняць меры да організацыі груп пры ўсіх с/с, КСУ і коопэрацыі.

7. Дырэктывы ЦК аб паляпшэньні масавай работы саветаў і коопэрацыі, а таксама ўзмацненьня работы ў галіне культурнага будаўніцтва, хаця і знайшлі сваё адлюстраваньне ў дырэктывах АК, але вынікі гэтае работы, асабліва масавае работы с/с, амаль адсутнічаюць. Як і раней, вакол работы саветаў, адпаведнага актыву няма. Камісіі пры с/с, за выключэньнем культурна-асьветнай, не працуюць. Асабліва трэба адзначыць марудны тэмп лiквiдацыі няпісьменнасьці; пагоршылася праца гарадзкіх організацый, у прыватнасьці т-ва „Прэч Няпісьменнасьць“.

8. ЦК зварочвае ўвагу Магілеўск. парторганізацыі на неабходнасьць рашучага ўзмацненьня работы ў справе далейшай рэалізацыі пастаноў ЦК на грунце шырокага разгортваньня самакрытыкі, унутрыпартыйнай дэмократыі, шырокага абгаварэньня ў парторганізацыі пытаньняў партыйнага і гаспадарчага будаўніцтва. Адначасова ЦК паказвае на галоўныя недахопы ў сыстэме работы АК, адсутнасьць праверкі выкананьня сваіх пастаноў як наогул, так і ў прыватнасьці—унутры апарату АК (вылучаюцца камісіі па распрацоўцы рэзалюцый па важнейшым пытаньням і не працуюць па 7 м-цаў). Пастановы АК па дакладам нізавых парторганізацый не папулярызуюцца сярод партыйных мас той організацыі і не завастраецца ўвага вакол гэтых пытаньняў.

ЦК прапануе ў далейшым зьнішчыць гэтыя недахопы ў сыстэме работы, наладзіўшы належны кантроль і праверку выкананьня дырэктыў.

## Аб вярбоўцы рабочых у партыю і рэгуляваньні соцыяльнага складу Барысаўскай райпартарганізацыі.

*(З пастановы сакратарыяту ЦК КП(б)Б ад 22/VII 29 г.).*

Сакратарыят ЦК КП(б)Б канстатуе, што пры агульна здавальняючым соцыяльным складзе, узрост організацыі за апошнія паўгода (114 чалавек) зусім недастатковы, у той час калі рабочая і батрацкая база дзеля вярбоўкі ў партыю ў раёне вельмі спрыяючая.

Выходзячы з гэтага, Сакратарыят ЦК КП(б)Б прапануе РК КП(б)Б:

1. Рашуча ўзмацніць працу па вярбоўцы ў партыю рабочых з вытворчасьці, з такім разрахункам, каб тэмп росту параўнаўча з справаздачным пэрыядам значна павялічыць.

У складзе прымаемых у партыю павінна быць забясьпечана і на далей ня менш 90% рабочых, занятых непасрэдна на вытворчасьці. Распрацаваць у кожнай ячэйцы і на прадпрыемстве паасобку канкрэтныя мерапрыемствы, накіраваныя да ўзмацненьня росту арганізацыі.

2. Асаблівую ўвагу зьвярнуць на пытаньне масавай працы на прадпрыемствах, савгасах, калгасах і сярод батрацтва.

3. Працягваць працу па рэарганізацыі сеткі парт'ячэек у бок прыстасаваньня да цэха—зьмены, ускорыць выкананьне пастановы XII зьезду аб арганізацыі парт'ячэек пры савгасах і больш буйных калгасах. З гэтай мэтай накіраваць у савгасы і калгасы неабходны лік партыйцаў, а таксама разгарнуць працу па вярбоўцы ў партыю савгаскіх рабочых і лепшай часткі калгасьнікаў.

4. У мэтах узмацненьня сувязі ячэек з рабочымі масамі, шырэй прыцягваць на адчыненыя сходы беспартыйных рабочых і ня менш аднаго разу ў 2 тыдні праводзіць гутаркі, як па паасобным палітычным і гаспадарчым пытаньням, так і па пытаньням вытворчасьці і росту партарганізацыі.

5. Разгарнуць сярод актыву належным парадкам штодзённую індывідуальную групавую агітацыю за ўступленьне ў партыю, дабіваючыся адказнасьці за гэту працу ад кожнага партыйца. Працу партыйцаў па індывідуальнай падрыхтоўцы і ўцягненьню рабочых у партыю лічыць за асноўную партнагрузку.

6. З мэтай узмацненьня росту за лік работніц неабходна на прадпрыемствах з пераважнай колькасьцю работніц („Чырвоная Бярэзіна") палепшыць бытавыя ўмовы работніц у першую чаргу шляхам прыстасаваньня дзіцячых устаноў да грамадзкай працы, а таксама прыстасоўваючы масава-выхаваўчую працу да бытавых умоў работніц. Паставіць сваей задачай на бліжэйшы час дабіцца вылучэньня на гэтым і на іншых прадпрыемствах, дзе ёсьць значная колькасьць работніц, на адказную партыйную, прафэсіянальную, гаспадарчую працу работніц. Пераглядзець да верасьня месяца склад дэлегатак выпуску 1927/28 г. дзеля ўцягненьня лепшай часткі дэлегатак у партыю.

7. Адзначаючы слабы рост парторганізацый за лік комсамольцаў, даручыць ЦК ЛКСМБ заслухаць спэцыяльны даклад Барысаўскага райкому ЛКСМБ аб уцягненьні рабочай моладзі у КСМ і аб выхаваньні і аб падрыхтоўцы рабочай моладзі да ўступленьня у партыю. Даручыць РК КП(б)Б узмацніць кіраўніцтва раённай комсамольскай організацыяй у гэтым напрамку.

8. Падкрэсьліваючы зусім слабы рост за лік батракоў, што тлумачыцца слабай працай сярод батрацтва наогул, РК зараз-жа прыняць шэраг мерапрыемстваў у напрамку разгортваньня сярод батрацтва, як культурна-масавай, так і эканамічнай працы, дзеля чаго: вызначыць парторганізатараў па працы сярод батрацтва, пачынаючы з восені. Організаваць шэраг палітшкол і гурткоў для батракоў, пашырыць падпіску на газэты, больш рашуча высоўваць батракоў на кіруючую працу па ўсім галінам, аказвая ім належную практычную дапамогу ў працы. Наладзіць працу па забароне эканамічных інтарэсаў батракоў і г. д. З мэтай прыцягненьня батракоў на партсходы, практыкаваць у тых пунктах, дзе найбольш згуртована батрацтва, адчыненыя сходы ячэек. Лічыць неабходным узмацненьне працы па падрыхтоўцы ў партыю с. г. рабочых і батракоў па лініі саюза СГЛР, аб чым даць належнае ўказаньне мяйсцовым проф. ячэйкам.

9. Адзначаючы слабы ўдзел Барысаўскіх профсаюзных організацый у справе выхаваньня і падрыхтоўкі рабочых да ўступленьня ў партыю ЦК прапануе райкому зьвярнуць на гэты бок сваю ўвагу.

10. Неабходна ўзмацніць працу па ўцягненьню ў партыю лепшай часткі сялян беднякоў, асабліва занятых у калгасах. З гэтай мэтай больш стала паставіць працу з сялянскім актывам.

11. Пры ўкамплектаваньні партсеткі наступнага 29/30 навучальнага году ўцягнуць у школы і гурткі ня менш як 35-40% беспартыйных фаб. заводзкіх і с. г. рабочых—батракоў, батрачак і с. г. работніц. Арганізаваць шэраг гурткоў беспартыйнага актыву па азнаямленьню з уставам, праграмай і асноўнымі рашэньнямі партыі.

12. Яшчэ раз прапрацаваць у ячэйках лютаўскія пастановы ЦК Усе КП(б) і КП(б)Б. намеціўшы практычныя мерапрыемствы па іх рэалізацыі. Праводзіць адзін раз у 2 месяцы на агульных сходах ячэек праверку выкананьня намячаемых мерапрыемстваў па вярбоўцы ў партыю рабочых. РК пашырыць практыку заслухоўваньня дакладаў асобных ячэек, асабліва ячэек буйных прадпрыемств, савгаскіх і калгаскіх аб ходзе працы па вярбоўцы рабочых у партыю.

## Аб хваравітых зьявішчах у ЛКСМБ і барацьбе з імі.

*(З пастановы Сакратарыяту ЦК ад 22/V-29 г.).*

1. Хваробныя зьявішчы сярод рабочай часткі організацыі і рабочай моладзі праяўляюцца з прычыны недастатковага разуменьня некаторымі комсамольцамі ўсёй сутнасьці соцыялістычнай рацыяналізацыі вытворчасьці, адсюль праяўленьні вузка-цэхавых настрояў рвацтва, слабасьць працдысцыпліны, хвасьцізм, асабліва за апошні час. У вёсцы—скажэньне клясавай лініі, асабліва пры правядзеньні палітычных і гаспадарчых кампаній (перавыбары сельсаветаў, хлебазагатоўкі, самаабкладаньне), моманты пасыўнасьці ў рабоце, выпадкі актыўнага супроцьдзейнічаньня і нежаданьне падтрымаць лінію партыі ў правядзеньні коопэраваньня і колектывізацыі сельскай гаспадаркі, работы з беднатой і г. д.

Усё яшчэ значнае мейсца сярод хваробных зьявішчаў займае п'янства і хуліганства і шэраг іншых бытавых ізвращчэньняў, моманты палавой распусты і нетаварыскіх адносін да дзяўчат, элемэнты падхалімства, скурніцтва і кар'ерызма.

2. У сувязі з рашучым соцыялістычным наступленьнем на капіталістычныя элемэнты, абвастрылася клясавая барацьба. Гэта выклікае ажыўленьне антысэміцкіх і шовіністычных настрояў у частцы комсамолу, рабочай і сялянскай моладзі.

3. Усё яшчэ слабая работа ЛКСМБ па правядзеньню анты-рэлігійнай прапаганды як сярод сваіх членаў, так і б/п моладзі дае магчымасьць праяўленьню ўплыву рознага рода царкоўных і сэктанцкіх організацый на адсталыя слаі комсамольцаў і б/п моладзі, асабліва ў вёсцы.

4. З прычыны недастатковага прыстасаваньня работы комсамолу да запатрабаваньняў асобных груп моладзі, наглядаецца павялічэньне цякучасьці членаў, нялічча значнага ліку „мёртвых душ". Выключэньне з комсамолу і дабраахвотныя выхады, хаця і зьменшыліся, усё-ж займаюць значнае мейсца.

Адзначаючы налічча гэтых балючых зьявішч, Сакратарыят ЦК КП(б)Б прызнае, што да гэтага часу організацыі ЛКСМ, у прыватнасьці конфліктныя камісіі, камітэтаў, усё яшчэ недастаткова вядуць барацьбу з адмоўнымі зьявішчамі, слаба мобілізуюць увагу на барацьбу з імі шырокіх мас комсамольцаў, марудна перабудоўваюць сваю работу. Пры гэтым з боку парткамітэтаў, ячэек і КК КП(б)Б да гэтае пары ня досыць здавальняюча зьярталася ўвагі і садзейнічаньня рабоце комсамольскіх організацый у барацьбе з хваробнымі зьявішчамі.

Правы ўхіл, прымірэнцкія да яго адносіны, як рэальная галоўная небясьпека ў партыі, зараз, на даным этапе яе разьвіцьця, для комсамолу зьяўляецца яшчэ больш небясьпечнымі ў сілу таго, што комсамольская маса менш загартаваная ў рэвалюцыйнай барацьбе, зусім нізкі яшчэ політычны ўзровень яе, асабліва на вёсцы. Усё гэта завастрае задачу растлумачэньня карэньняў і сутнасьці правага ўхілу сярод комсамольскай масы.

Перад ЛКСМБ стаяла і стаіць задача з усёй вострасьцю весьці рашучую барацьбу з правым ухілам, як галоўнай небясьпекі ў партыі і саюзе зараз, і прымірэнцтвам, не паслабляючы барацьбы з рэшткамі контррэвалюцыйнай трацкісцай ідэолёгіі.

Выходзячы з гэтага, Сакратарыят ЦК КП(б)Б зварочвае ўвагу комсамольскай організацыі на наступнае:

1. Выхоўваючы ў ЛКСМБ рэволюцыйную нецярпімасьць у адносінах да ўсіх балючых зьявішч, трэба мэтадам самакрытыкі ўскрываць і зьнішчаць кожнае балючае зьявішча. Шырокае разгортваньне самакрытыкі павінна служыць усямернаму ўзмацненьню ўнутры-комсамольскай і вытворчай дысцыпліны.

2. Асаблівая ўвага павінна быць зьвернута на барацьбу з наглядаючыміся хваробнымі зьявішчамі як у быту, так і ў грамадзкім жыцьці актыву комсамолу, барацьба за аздараўленьне комсамольскага актыву павінна быць пастаўлена пад контроль комсамольскіх мас.

Ухваляючы мерапрыемствы організацыі ЛКСМБ у справе барацьбы з засьмечанасьцю актыву і з момантамі разлажэньня сярод асобных груп яго, Сакратарыят ЦК указвае на неабходнасьць усямернага ўзмацненьня партыйна-пролетарскага кіраўніцтва, большага высоўваньня на кіруючую работу рабочага і батрацка-бядняцкага актыву. Адначасова, з боку партыйных організацый неабходна ўзмацненьне парт. кіраўніцтва комсамолам, шляхам пастаноўкі рэгулярнай справаздачнасьці ў камітэтах і ячэйках КП(б)Б, агляду, палепшаньня падбору парт. прымацаваных, скліку іх нарад, абгаварэньня асобных важнейшых пытаньняў і г. д. Неабходна дабіцца большага контролю з боку АКК працы конфліктных камісій камітэтаў.

3. Больш увагі ўдзяліць разьвіцьцю культурна-масавай і выхаваўчай работы. У прыватнасьці, больш разьвіваць дабраахвотныя аб'яднаньні і гурткі, практыкуемыя калектыўныя формы політыка-выхаваўчай работы (клюбы, юнсэкцыі, кіно-тэатры, літаратура), масавай работы ў інтэрнатах і ЖАКТ'ах і г. д., утвараючы вакол гэтага дабраахвотны комсамольскі актыў.

4. У барацьбе з п'янствам, як соцыяльным злом, хуліганствам і дэбоширствам, на раду з мерамі організацыйнага парадку, павінна быць зьвернута асаблівая ўвага на разьвіцьцё сярод комсамольцаў і беспартыйнай моладзі ініцыятыўных груп садзейнічаньня барацьбе з алкагалізмам.

5. З боку ўсяго ЛКСМБ павінна быць палепшана работа па інтэрнацыянальнаму выхаваньню мас комсамольцаў і працоўнай моладзі. Павінна быць узмоцнена і праводзіцца рашучая барацьба з антысэмітызмам і ўсякага роду шовінізмам. У барацьбе з антысэмітызмам значнае мейсца павінна заняць растлумачальная выхаваўчая работа (азнаямленьне з працай АЗЭТ, з жыцьцём яўрэйскага працоўнага насельніцтва, растлумачэньне сутнасьці нацполітыкі КП(б)Б).

6. Маючыяся частковыя настроі супроць беларусізацыі, нежаданьне вывучаць і карыстацца ў быту бел. мовай, павінны быць зьліквідаваны. Неабходна ўзмацніць тэмп правядзеньня беларусізацыі. На абслугоўваньне працоўнай моладзі нац. меншасьцяй як па лініі эканамічнай, так і культурнай, зьвярнуць больш увагі.

7. У бліжэйшы час ЦК ЛКСМБ дабіцца пасіленьня антырэлігійнай працы, уключыўшы яе ў сыстэму саюзнай работы. ЦК ЛКСМБ, сумесна з ЦП Саюзу Бязбожнікаў, распрацаваць пытаньне аб падвышэньні кваліфікацыі антырэлігійнага актыву моладзі і устанаўленьня ў адпаведных камітэтах ЛКСМБ работнікаў па антырэлігійнай рабоце.

8. Трэба больш рашуча павесьці работу па складаньню таварыскіх адносін да дзяўчат і таксама на іх прасоўваньні на грамадзкую і кіраўнічую работу ў КСМ.

Уцягваючы дзяўчат у агульную масавую работу, правадзімую сярод моладзі, трэба разьвіваць формы масавай работы, прыстасоўваючы да абслугоўваньня беспартыйных дзяўчат (работніц, батрачак, бяднячак), увёўшы практыку правядзеньня асобных нарад, сходаў, канфэрэнцый дзяўчат.

ЦК ЛКСМБ праверыць работу ячэек (з большай колькасьцю дзяўчат, як „Чырвоная Бярэзіна", „Добруш", „Дзьвіна", „Днепр", „Везуві").

9. У барацьбе з хваробнымі зьявішчамі ў вясковых арганізацыях ЛКСМБ дабівацца ў першую чаргу большай яскравасьці і чоткасьці ў правядзеньні клясавай пролетарскай лініі, пасіленьня ўвагі да працы сярод батрацтва і беднаты.

10. Даручыць КК ЦК ЛКСМБ на працягу 2-х месяцаў вывучыць дасканальна пытаньне аб самазагубствах сярод комсамольцаў і беспартыйнай моладзі, унёсшы гэта пытаньне на абгаварэньне Сакратарыяту ЦК.

11. Зьвярнуць асаблівую ўвагу на барацьбу з хваробнымі зьявішчамі сярод вучнёўскай і студэнцкай моладзі, для чаго неабходна палепшыць працу і кіраўніцтва работай ячэек навучальных установ. Трэба практыкаваць скліканьне нарад і конфэрэнцый, пераносячы туды лепшыя абразцы саюзнай работы іншых ячэек, ажыўляючы і паляпшаючы зьмест работы гэтых ячэек.

Прыняць крокі да шырокага разьвіцьця масавай работы сярод беспартыйнага студэнцтва. Неабходна і ў далейшым практыкаваць формы таварыскай сувязі вытворчых ячэек з ячэйкамі навучальных установ.

12. У барацьбе з хваробнымі зьявішчамі роля конфліктных камісій, у прыватнасьці КК ЦК ЛКСМБ, павінна быць павышана. Навакол працы КК неабходна скласьці шырокі слой актыву (засядацеляй і сьледчых). КК павінны больш удзяліць увагі вывучэньню хваробных зьявішч мерамі папярэджаньня і выхаваўчага ўзьдзейнічаньня. Часьцей практыкаваць адчыненыя пасяджэньні КК з выездам на мейсца для разбору спраў, маючых грамадзка-палітычны характар.

13. Сакратарыят ЦК КП(б)Б адабрае мерапрыемствы і пастанову ЦК ЛКСМБ аб праверцы соцыяльнага складу ЛКСМБ і аб чыстцы яго ад соцыяльна-чуждых, клясава-варожых і прымазаўшыхся элемэнтаў. Разам з гэтым зварочвае ўвагу на больш лепшае рэгуляваньне росту комсамолу, пасіліўшы ўцягненьне ў ЛКСМБ рабочых, батрацтва, сельска-гаспадарчых рабочых і вясковае беднаты пры дасканальным адборы сапраўды лепшых сераднякоў, правераных на грамадзкай рабоце і дапамагаючых правядзеньню пролетарска-клясавай лініі ў вёсцы. Ні ў якім разе не дапускаць пранікнавеньню ў ЛКСМБ чуждай моладзі.

14. Побач з важнейшай работай па вярбоўцы маладых рабочых, батракоў і рэгуляваньні росту ЛКСМБ, павінна быць зьвернута асаблівая ўвага на рашучую барацьбу са скрыўленьнем клясавай лініі.

# У ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАНТРОЛЬНАЙ КАМІСІІ КП(б)Б.

## Аб выніках праверкі і чысткі кіруючых кадраў КП(б)Б і далейшых задачах.

1. Бюро ЦК і Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б, абгаварыўшы вынікі праверкі і чысткі кіруючых кадраў КП(б)Б, адзначаюць праяўленую ў часе праверкі актыўнасьць як партыйнай, так і беспартыйнай рабочай масы, дзелавое і правільнае разуменьне гэтай важнейшай палітычнай задачы, якую праводзіць партыя, увага партыйнай масы і беспартыйных рабочых была накіравана на дзелавую праверку і абгаварэньне правяраемых здольнасьць да правядзеньня генэральнае лініі і стойкасьць камуністага рашуча адмятаючы ў бок усякага роду моманты склочніцтва, асабістыя рахункі і г. д., што сьведчаць аб палітычным росьце як партыйнай масы, так і рабочае клясы. Праяўленая актыўнасьць шырокіх рабочых мас пры праверцы і чыстцы кіруючага складу КП(б)Б і адносіны да партыі сьведчаць аб вялікім аўтарытэце партыі сярод рабочых мас, прычым аўтарытэт яе ў сувязі з чысткаю яшчэ больш узрастае, яшчэ больш зьвязвае партыю з рабочай клясай.

2. Аднак, побач з гэтымі станоўчымі вынікамі, Бюро ЦК і Прэзыдыум ЦКК знаходзяць, што падрыхтоўка да праверкі і чысткі партыі ня ўсюды выстарчальна праведзена ў сэнсе растлумачэньня яе задач партыйнай масе і сярод рабочых мас, батракоў і беднаты, у выніку чаго ў паасобных парт'ячэйках наглядалася невыстарчальнае ўцягненьне мас у праверку і чыстку кіруючых кадраў, а таксама вялікім

недахопам у падрыхтоўчай рабоце ва ўсіх партарганізацыях зьяўляецца слабы тэмп вярбоўкі ў партыю рабочых.

3. Праверка выявіла агульны здавальняючы стан кіруючых кадраў КП(б)Б, якія забясьпечваюць правільнае правядзеньне генэральнай лініі партыі, побач з гэтым пры падборы ў кіруючыя парторганы не заўсёды сур'ёзна з боку парткамітэтаў правяраліся партыйныя якасьці і падрыхтаванасьць некаторых таварышоў, у выніку чаго ў складзе кіруючых органаў партыі (ЦК, ЦКК, АК і АКК) праверка выявіла паасобных таварышоў, якія не карыстаюцца аўтарытэтам сярод партыйнай і рабочай масы, а таксама і выпадкі невыстарчальнай дапамогі з боку партарганізацый вылучэнцам ад варштату ў кіруючыя органы партыі ў сэнсе ўзьняцьця іх палітычнага ўзроўню, невыстарчальнага ўцягненьня ў практычную работу парторганаў і сувязі з імі ў іх рабоце на прадпрыемствах. Пры гэтых умовах і чыстка кіруючага складу ўстанавіла слабую палітычную падрыхтоўку паасобных членаў кіруючых органаў, няздольнасьць іх разабрацца ў важнейшых пастановах партыі і іх правільнага правядзеньня.

ЦК і ЦКК КП(б)Б пастанаўляюць:

Ухваляючы праведзеную работу і пастановы Камісіі ЦКК УсеКП(б) па праверцы і чыстцы кіруючага складу КП(б)Б:

1. Абавязаць усе парторганізацыі неадкладна выправіць недахопы па падрыхтоўцы, праверцы і чыстцы партыі, выяўленыя камісіяй ЦКК і УсеКП(б) і яшчэ больш узмацніць работу па растлумачэньні шырокім партыйным і беспартыйным рабочым масам, асабліва батрацтву і вясковай беднаце задач партыі па правядзеньні праверкі і чысткі; прыняць меры да забесьпячэньня шырокага ўдзелу іх у гэтай рабоце. Адначасова абавязаць усе партарганізацыі не дапушчаць да далейшага пранікненьня на праверачныя сходы ў горадзе і ў вёсцы нэпманаў, кулакоў і іншага анты-савецкага элемэнту і спроб з іх боку дыскрэдытацыі партыі па асобных учынках правяраемага члена партыі.

Ацэньваючы кіраўніцтва кожнай партарганізацыі па ўменьні арганізаваць масу вакол справы праверкі і чысткі партыі, асабліва ў вёсцы, абавязаць усе АК і РК праверыць, як праводзіцца падрыхтоўчая работа на мясцох, аказваць дапамогу ў штодзеннай рабоце кантрольным камісіям і праверачным камісіям, маючы на ўвазе, што чыстка партыі зьяўляецца справаю ня толькі кантрольных камісій, а ўсіх партарганізацый.

2. Прызнаць зусім недапушчальнай і слабой работу па падрыхтоўцы і вярбоўцы новых членаў партыі з рабочых, батракоў і сялянскай бедноты. ЦК і ЦКК зазначае, што праверка і чыстка партыі бяз сталай работы па падрыхтоўцы і вярбоўцы новых членаў партыі зьяўляецца няпоўнай і нездавальняючай работай партарганізацый, таму партарганізацыі павінны ўвязаць далейшую работу з актыўнай вярбоўкай у партыю рабочых.

Зазначыць усім праверкомам, што яны абавязаны самым дакладным чынам, праверыць кожнага правяраемага члена партыі як з пункту гледжаньня здольнасьці правядзеньня імі генэральнай лініі партыі, так і клясавы твар камуністага.

3. Пры праверцы палітузроўню правяраемага камуністага з боку праверкомаў не павінен дапушчацца экзамэнатарскі падыход, запалохваньне кавэрзнымі пытаньнямі, а праз высьвятленьне яго штодзеннай работы і праз таварыскую гутарку.

4. Запрапанаваць усім праверкомам, каб яны адпаведным чынам на праверачных сходах прынялі належныя меры, якія дапамагалі-б разьвіцьцю самакрытыкі, „ня гледзячы на асобы", маючы на ўвазе, што толькі шырокае разгортваньне самакрытыкі мас можа і акажа магчымасьць выявіць усе недахопы як у правяраемага члена партыі, так і ў самой партарганізацыі. Аднак, рашуча змагацца супроць зьвядзеньня

асабістых рахункаў з правяраемым камуністым і скарыстаньнем склокі, капаньнем у дробных пытаньнях у быце камуністага.

5. Папярэдзіць усіх членаў партыі, што члены партыі, якія адмаўляюцца праўдзіва адказваць на пытаньні праверкомаў, падлягаюць неадкладнаму выключэньню з партыі, згодна пастановы 15-га зьезду ЎсеКП(б).

6. Адзначаючы невыстарчальнае асьвятленьне з боку некаторых газэт пытаньняў як падрыхтоўкі, так і непасрэднай работы па чыстцы партыі, асабліва з боку насьценгазэт і шматтыражных, ЦК і ЦКК прапануюць усім газэтам як цэнтральным, так і мясцовым, а таксама і ўсім насьценгазэтам і шматтыражным узмацніць асьвятленьне як падрыхтоўкі да чысткі партыі, так і непасрэдна ход чысткі партыі; зьвярнуць асаблівую ўвагу на работу парторганізацыі па падрыхтоўцы і вярбоўцы новых членаў партыі.

7. Улічваючы, што многія з кіруючага актыву, як гэта паказала праверка кіруючага складу партыі, слаба палітычна падрыхтаваны, прапанаваць АПА ЦК КП(б)Б распрацаваць рад мер і ўнесьці на разгляд ЦК аб падняцьці палітузроўню партактыву. Абавязаць усе АК прыняць рад мер дапамогі вылучэнцам ад варштату ў кіруючыя органы партыі, забясьпечыўшы ім магчымасьць папоўніць свае палітведы і ўсямерную дапамогу ў іх рабоце.

8. ЦК і ЦКК КП(б)Б прапануе ўсім акруговым камітэтам партыі і кантрольным камісіям абгаварыць і прыняць канкрэтныя меры па правядзеньні гэтае пастановы, а таксама па зьнішчэньні памянёных недахопаў, выкрытых пры праверцы кіруючага складу парторганаў.

Запрапанаваць адпаведным аддзелам ЦК распрацаваць і падаць на разгляд Бюро ЦК пытаньне аб паляпшэньні і ўзмацненьні работы прымацаваных таварышоў да адпаведных партыйных ячэек, паляпшэньні падбору вылучэнцаў у кіруючыя органы партыі, а таксама праверкі практыкі кіраўніцтва цэхавымі ячэйкамі паасобных прадпрыемстваў, непасрэдна з боку райкомаў.

Прапанову праверачнай камісіі ЦКК УсеКП(б) аб нямэтазгоднасьці пакіданьня некаторых таварышоў у складзе ЦК і ЦКК паставіць на абгаварэньне бліжэйшых пленумаў ЦК і ЦКК КП(б)Б.

# Пастановы ЦКК па дакладам Акруговых Кантрольных Камісій аб ходзе праверкі і чысткі партыі.

## Па дакладам Віцебскай і Менскай АКК.

1. Ня гледзячы на тое, што чыстка і праверка складу праверкомаў ячэек вайсковых і вясковых парторганізацый праходзіць пры актыўным удзеле і зацікаўленасьці як партыйных, так і беспартыйных мас, аднак, пры гэтым Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б адзначае і лічыць зусім ненармальным, што на некаторыя праверачныя сходы трапляюць чужыя партыі элемэнты (Ліозна, Бешанковічы, Чэрвень), што сьведчыць аб недастатковай падрыхтоўчай рабоце па арганізацыі і правядзеньні праверачных сходаў з боку некаторых РК і праверкомаў.

2. Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б лічыць зусім недапушчальнымі адносіны сакратара Ліозьнянскага РК тав. Чартарыцкага і сакратара Вунаўскай вясковай ячэйкі т. Лопіна, якія (згодна паведамленьня т. Мундау) недаацанілі і не прынялі належных мер па падрыхтоўцы і арганізацыі да чысткі радоў партыі і не аказалі належнай дапамогі ў рабоце праверкому, у сувязі з чым праверачны сход Вунаўскай яч. быў сарваны.

3. Асобныя праверкомы недастаткова ўвязваюць работу па чыстцы з праверкай усёй работы ячэек і па выяўленьні праступкаў, нягодных членаў партыі, у зьвязку з чым у пастановах некаторых праверкомаў у адносінах да паасобных партыйцаў няма поўнага адбітку аб дзейнасьці і ўчынках партыйцаў, а таксама ячэек у цэлым.

Усё гэта зьяўляецца вынікам недастатковага ўяўленьня праверкомамі інструкцыі па чыстцы і праверцы радоў партыі і недастатковага кіраўніцтва праверкомамі з боку АКК.

4. Практыка работы сьведчыць, што партдырэктывы аб вярбоўцы новых кадраў рабочых, батрацтва і беднякоў у партыю ў часе чысткі і праверкі праводзяцца слаба.

Гэта справа, як з боку партыйных камітэтаў і ячэек, так і з боку праверкомаў удзяляецца недастатковая ўвага.

5. Навакол пытаньняў чысткі і праверкі радоў партыі недастаткова арганізаваны рабкоры, селькоры і сьцянкоры. Разам з тым адзначыць, што насьценгазэты слаба прымаюць удзел у асьвятленьні праверкі і чысткі партыі, матар'ял насьценгазэт недастаткова скарыстоўваецца праверкомамі пры чыстцы і праверцы ячэек.

Выходзячы з гэтага і з мэтай папярэджаньня і зьнішчэньня ў далейшым маючыхся недахопаў, Прэзыдыум ЦКК КП(б)Б у далейшым прапануе:

1) АК і АКК узмацніць кіраўніцтва работай праверкомаў, шляхам сталага іх інструктаваньня пры пасылцы ў раёны, а таксама інструктаваньня і дапамогі нахаду, у працэсе работы праверкомаў. Дзеля гэтага АК і АКК вылучыць членаў Бюро АК і Прэзыдыуму АКК для паездкі ў раёны, адначасова практыкуючы выклікі старшынь або праверкомаў цалкам у АКК для заслухоўваньня дакладаў аб рабоце праверкомаў.

2) АК і АКК сачыць за тым, каб з боку райкомаў, ячэек і праверкомаў былі ўжыты ўсе меры па арганізацыі і скліканьні адкрытых праверачных сходаў ячэек, забясьпечваючых поўны ўдзел партыйцаў і максымальны ўдзел беспартыйных рабочых, батракоў, беднаты і серадьнякоў, пры гэтым ні ў якім разе не дапушчаючы на адкрытыя праверачныя сходы чужы партыі элемэнт. АКК і АК дабіцца поўнай і ўсебаковай дапамогі праверкомам з боку РК і ячэек.

3) АК і АКК сачыць і дапамагаць РК, ячэйкам і праверкомам у справе разгортваньня самакрытыкі ў часе чысткі і праверкі і тым забясьпечваць поўнае выяўленьне хваравітых зьявішч, якія маюцца ў ячэйках, або за тым ці іншым партыйцам. Праверкомам зьвярнуць асаблівую ўвагу на праверку ўсей работы ячэек з пункту гледжаньня выкананьня дырэктыў партыі.

4) Ня робячы з праверкі экзамэну па палітычных ведах, праверкомам неабходна высьветліць на момантах практычнай працы разуменьне партыйцамі дырэктыў партыі і агульных задач партыі і іх практычнае клясава-вытрыманае ажыцьцяўленьне.

5) Адзначаючы недастатковую сувязь АКК з ЦКК і несваячасовую з іх боку інфармацыю ЦКК аб ходзе чысткі і праверкі вясковых і вайсковых ячэек. Прэзыдыум ЦКК прапануе ўсім АКК сваячасова прысылаць па ўстаноўленых формах і ва ўстаноўленыя тэрміны сваю інфармацыю аб ходзе чысткі і праверкі.

6) Адначасова з тым ПК ЦКК КП(б)Б выклікаць старшынь АКК і заслухоўваць іх даклады па ПК ЦКК.

Арамя таго, членам ЦК і Прэзыдыуму ЦКК, шляхам выезду, правяраць працу на месцы і дапамагаць у рабоце АКК.

7) Даручыць Віцебскай АКК мець асобнае суджэньне ў адносінах паводзін сакратара Ліозьнянскага РК і ячэйкі.

# Па дакладам Гомельскай і Бабруйскай АКК.

Заслухаўшы даклады старшыні Гомельскай АКК КП(б)Б Земнека и старшыні Бабруйскай АКК КП(б)Б т. Зелянкоўскага аб ходзе праверкі і чысткі вайсковых і вясковых парт-арганізацый, — парткалегія ЦКК КП(б)Б адзначае:

1. Пры здавальняючай у большасьці ячэек масавасьці і актыўным удзеле ў праверцы і чыстцы партарганізацый з боку беспартыйнай, чырвонаармейскай масы—у вайсковых партарганізацыях, сельска-гаспадарчых і лясных рабочых, батрацтва, беднаты і лепшай часткі серадняцтва ў вёсцы—поруч з гэтым маюць месца паасобныя факты, калі пры недастатковай арганізацыйна-пастаўленай рабоце праверкомаў, РК і ячэек яўка на сходы беспартыйных і актыўнасьць іх нездавальняючая. На адчыненыя сходы па праверцы і чыстцы трапляюць кулакі, папы і інш. варожыя партыі элемэнты з мэтай дыскрэдытацыі партыі, якія сустракаюць жорсткі адпор з боку саміх удзельнікаў сходу.

2. Ахоп праверкомамі ўсіх раёнаў, плянавасьць, дастатковае інструктаваньне ў працэсе работы праверкомаў з боку Гомельскай АКК і зусім недастатковы ахоп раёну (4 з 13-ці) пры адсутнасьці пляну, зусім недастатковае інструктаваньне ў ходзе работы праверкомаў з боку Бабруйскай АКК і недастатковай работы па праверцы і чыстцы з боку Бабруйскага Агругкому.

3. Недастатковая падрыхтаванасьць да праверкі і чысткі з боку райкомаў, аб чым сьведчыць нядобраякаснасьць складзеных характарыстык на ячэйкі, якія за малым выключэньнем не маглі быць скарыстоўваемы праверкомамі як матар'ял ацэньваючы сапраўднае становішча ячэек, а таксама недастатковая дапамога ў рабоце праверкомаў з боку раду РК і ячэек у справе вылучэньня работнікаў для апрацоўкі, абагульваньня вынікаў праверкі і чысткі, слабай арганізацыі селькораў і зусім недастатковая пастаноўка работы насьценгазэт у раёнах, сельсаветах, саўгасах і г. д.

4. У радзе парт'ячэек усё яшчэ адзначаецца недастатковае разгортваньне самакрытыкі і ўсьвядомленасьць гэтага лёзунгу з боку беспартыйнай масы сялян-беднякоў і батракоў, з прычыны чаго ў паасобных ячэйках у часе праверкі і чысткі маюць месца факты, калі беспартыйныя баяцца адчынена заяўляць на сходах і праверкомам аб недахопах асобных партыйцаў, пасыўнасьць і кругавая парука, баязьнь беспартыйнай масы з боку партыйцаў паасобных ячэек, а таксама мае месца факт (Кавалеўская ячэйка), калі ў часе праверкі ня быў выяўлены чужы партыі элемэнт (спэкулянт), а толькі пасьля праверкі гэта выявілася.

З мэтаю папярэджаньня і зьнішчэньня ў далейшым адзначаных вышэй недахопаў Парткалегія ЦКК КП(б)Б прапануе:

1. АКК і АК прыняць неадкладныя меры да ўзмацненьня кіраўніцтва работай праверкомаў і райкомаў у справе арганізацыі праверачных сходаў з такім разьлікам, каб ні ў якім разе не дапускаць на іх кулацкія і наогул варожыя партыі элемэнты.

Дабіцца большай і лепшай дапамогі ў рабоце праверкомаў з боку РК у справе поўнага выкананьня задач, ускладзеных на РК па складаньні і прадастаўленьні праверкомам матар'ялаў, характарызуючых становішча і работу паасобных ячэек

2. АК і РК вылучыць у дапамогу праверкомам патрэбны лік партыйцаў для выкананьня работы па апрацоўцы матар'ялаў, як складаньне дакладаў, падвядзеньне вынікаў праверкі па асобных арганізацыях, а таксама арганізацыя і ўцягненьне ў актыўную дапамогу партыі селькораў, прыцягнуўшы да актыўнага ўдзелу іх у асьвятленьні ходу праверкі ў насьценгазэтах.

3. АКК, АК і РК прыняць меры папярэджаньня і зьнішчэньня момантаў выкрыўленьня і недастатковага разгортваньня самакрытыкі ў паасобных ячэйках і больш поўнага растлумачэньня сярод беспартыйнай масы сялян-беднякоў і батрацтва сутнасьці і неабходнасьці актыўнага ўдзелу ў ажыцьцяўленьні лёзунгу самакрытыкі і садзейнічаньне ў правядзеньні партыяй праверкі і чысткі сваіх радоў.

4. У мэтах забесьпячэньня выкананьня пляну праверкі і чысткі (15-га жніўня), поўнага ахопу ўсіх раёнаў — прапанаваць Бабруйскай АКК і АК праз ячэйкі вылучыць і праверыць дастаткова ў склад праверкомаў ня менш 10 таварышоў, а таксама скласьці плян па акрузе.

Даручыць Менскай і Гомельскай АКК у тыднёвы тэрмін вылучыць і накіраваць у дапамогу Бабруйскай арганізацыі па 5 таварышоў са складу вылучаных у праверкомы, не застанаўліваючыся перад зваротам паасобных таварышоў з адпачынку.

5. Адзначаючы, што ў рабоце некаторых праверкомаў Беларускай арганізацыі маюць месца праяўленьні спешкі ў правядзеньні праверкі і чысткі (3 ячэйкі ў 5 дзён), што зьяўляецца яўным парушэньнем раней дадзеных дырэктыў ЦК і ЦКК КП(б)Б, прапанаваць Бабруйскай АКК і АК прыняць неадкладныя меры па забесьпячэньні правільнага выкананьня дырэктыў у гэтым пытаньні, а таксама неадкладна выправіць практыку работы паасобных праверкомаў у тых ячэйках, дзе гэтыя недахопы выяўлены.

6. Пацьвердзіць для няўхільнага выкананьня Бабруйскай АКК і Акругкому ранейшыя дырэктывы ЦК і ЦКК КП(б)Б аб парадку інструктаваньня і практычнай дапамозе ў рабоце праверкомаў з абавязковым вылучэньнем і пасылкай ў раёны членаў Прэзыдыуму АКК і членаў Бюро АК.

7. Прапанаваць Бабруйскай АКК праверыць і поўнасьцю забясьпечыць выкананьне раней дадзенай дырэктывы ЦКК па праверцы і чыстцы вайсковае партарганізацыі у тым сэнсе, што асноўнай адзінкай для праверкі і чысткі павінна зьяўляцца ячэйка, а не парткалектыў

8. Даручыць Статаддзелу ЦК КП(б)Б узмацніць інструктаж і пастаноўку справы статыстыкі і інформацыі па праверцы і чыстцы партыі ў акругкомах шляхам выезду на месцы.

# Па дакладам Магілеўскай і Аршанскай АКК.

Заслухаўшы даклады старшыні Аршанскай АКК т. Сьвірыдава і Старшыні Магілеўскай АКК т. Жолудава аб ходзе праверкі і чысткі вясковых і вайсковых ячэек па Аршанскай і Магілеўскай арганізацыям, Парткалегія ЦКК КП(б)Б пастанаўляе:

1) Прыняць да ведама, што праверка і чыстка вясковых і вайскавых ячэек у Аршанскай і Магілеўскай акругах праходзяць у большасьці арганізацый пры дастатковым наведваньні праверачных сходаў членамі і кандыдатамі партыі, зацікаўленасьці і актыўным удзеле на гэтых сходах беспартыйнай масы: с.-г. і лясных рабочых, батрацтва, беднаты, лепшай часткі серадняцтва, чырвонаармейцаў і членаў КСМ.

2. Адзначаючы ў асноўным здавальняючае разгортваньне самакрытыкі ў часе праверкі і чысткі ў тых ячэйках, дзе праведзена добрая падрыхтоўка, што садзейнічае праверкомам выяўляць недахопы, якія ёсьць у рабоце вясковых і вайсковых ячэек. Парткалегія ЦКК КП(б)Б зварочвае ўвагу, асабліва Аршанскай АКК і АК на слабую арганізаванасьць навакол праверкі і чысткі вясковых ячэек селькораў і насьценкораў, вынікам чаго зьяўляецца слабае асьвятленьне ў друку ходу праверкі і чысткі па Аршанскай акрузе; таксама слабае асьвятлень-

не ў цэнтральных газэтах ходу чысткі па Магілеўскай акрузе. Прапанаваць АКК і АК (Аршанскай і Магілеўскай) ужыць усе меры па выкананьні раней даных ЦК і ЦКК КП(б)Б дырэктыў па гэтым пытаньні

3. Лічыць зусім ненармальным, што з боку некаторых РК ня былі прыняты меры па растлумачэньчі задач праверкі і чысткі партыі сярод батрацтва, беднаты і серадняцтва (Чачэвіцкі раён, Магілеўскай акругі), адсутнасьць належнага кіраўніцтва і практычнай дапамогі ячэйкам у падрыхтоўчай рабоце да праверкі і чысткі, у выніку чаго у радзе ячэек інструкцыя ЦКК УсеКП(б) і рашэньні XVI партканфэрэнцыі па пытаньнях чысткі не прапрацованы (Чачэвіцкі, Магілеўскай акругі, Крупскі, Аршанскай акругі), што ўскладняла работу праверкомаў.

Даручыць АКК разглядзець пытаньне аб паводзінах сэкратароў гэтых райкомаў.

4. Парткалегія ЦКК асабліва падкрэсьлівае, што ў рабоце райкомаў і ячэек, а таксама і праверкомаў не ва ўсіх мясцох зварочваецца дастатковая ўвага пытаньням вярбоўкі ў партыю сельска-гасп. рабочых, батрацтва і беднаты (Шклоўскі раён, Магілеўскай акругі). АК і АКК праверыць выкананьне дырэктыў і аказаць практычную дапамогу райкомам у выкананьні дырэктыў па гэтым пытаньні, скарыстоўваючы вопыт прыкладной работы паасобных праверкомаў па вярбоўцы ў партыю.

5. Улічваючы тое, што праверкомы ў працэсе праверкі і чысткі ячэек выяўляюць у рабоце як ячэяк, так і райкомаў, многа недахопаў галоўныя з якіх—слабая пастаноўка масавай работы ў вёсцы, слабае разгортваньне самакрытыкі ў штодзеннай рабоце ячэек, у большасьці раёнаў слабае альбо поўнае адсутнічаньне работы па ўцягненьні ў партыю с.-г. рабочых, батрацтва, беднаты і калгасьнікаў, зусім слабае кіраўніцтва з боку РК работай ячэекі інш.—АК АКК прыняць неадкладныя меры да рэалізацыі вынікаў праверкі і чысткі партыі з мэтай ліквідаваньня адзначаных недахопаў і палепшаньня працы вясковых ячэек.

6. Адзначаючы неналаджанасьць як у Магілеўскай, так і асабліва ў Аршанскай акругах, распрацоўкі статыстычных даных на раёнах і акрузе, і няпрысылку іх да гэтага часу ў ЦКК КП(б)Б, катэгарычна прапанаваць АКК і АК наладзіць гэту работу і ў далейшым прысылаць па ўстаноўленых формах весткі ЦКК УсеКП(б), ЦК і ЦКК КП(б)Б да 1 і 15 кожнага месяцу.

7. Маючы на ўвазе наступіўшыя летнія работы ў вёсцы, што можа адбіцца на масавасьці праверачных сходаў, Парткалегія ЦКК КП(б)Б прапануе АК, АКК і РК прыняць усе меры па забясьпячэньні і ў далейшым наведваньня і актыўнага ўдзелу с.-г. рабочых, батрацтва, беднаты і серадняцтва ў часе праверкі і чысткі вясковых ячэек.

Разам з гэтым АК і АКК прыступіць да праверкі падрыхтаванасьці да чысткі савецкіх ячэек і ячэек навучальных устаноў.

8. Улічваючы, што ў радзе праверкомаў маюць месца факты слабага вывучэньня (ці поўная адсутнасьць) матываў палітычнай актыўнасьці ў садзейнічаньні чыстцы паасобных клясавых праслоек у вёсцы, а ў паасобных выпадках ня прымаюцца меры да таго, каб шырокае садзейнічаньне чыстцы вязглаўлялася арганізуемым партыяй батрацтвам і беднатой супроць кулацкіх, клясава-варожых сіл вёскі,— прапанаваць усім АК паставіць гэту задачу ў аснову работы праверкомаў шляхам самай шырокай папярэдняй работы па прыцягненьні да чысткі перш за ўсё батрацтва і беднаты, устанавіць вучот прысутных на сходах па чыстцы і выступаючых на іх па сацыяльных азнаках (батрак, бядняк, серадняк), аценьваючы палітычныя вынікі і якасьць праверкі па сапраўдных дасягненьнях чысткі ў справе прыцягненьня батрацтва і беднаты і ўцягненьня іх у партыю.

# З АРГАНІЗАЦЫЙНАЙ ПРАКТЫКІ МЕЙСЦ.

## Падрыхтоўка да асеньняй пасеўкампаніі.

### Магілеўская акруга.

У сувязі з прадстаячай асеньняй пасяўной кампаніяй, Магілеўскі АК вызначыў шэраг задач і мерапрыемстваў, накіраваных да ўзмацненьня сельскай гаспадаркі, яе калектывізацыі і ўцягненьня шырокіх бядняцкіх і серадняцкіх мас у работу па палепшаньню сельскай гаспадаркі.

АК вызначыў: пашырыць плошчу азімага кліну на 1,5%, у тым ліку ў саўгасах на 3,0%; падвысіць ураджайнасьць азімых у сялянскіх гаспадарках на 10%, у калгасах на 12% і саўгасах на 20%.

У галіне калектывізацыі вызначана выканаць гадавы плян арганізацыі калгасаў на плошчы ня менш 38.400 гкт. і скарыстаць пасеўную кампанію для далейшай работы па ўзбуйненьню дробных калгасаў.

У час кампаніі таксама будзе зьвернута ўвага на ўзмацненьне каапэраваньня па лініі вытворчай, каб забясьпечыць выкананьне гадавога пляну.

Вызначана правесьці кантрактацыю жыта на плошчы 8000 гкт. і заняць пад чыста-гатунковыя пасевы ў калгасах 1683 гкт., палепшаным на 2792 гкт.

З іншых мерапрыемстваў вызначана ачысьціць ня менш 53% высяваемага ў паасобных гаспадарках насеньня; перавесьці на шматпольле ўсю землеўпарадкаваную ў 1929 г. плошчу, а таксама 30.000 гкт., землеўпарадкаван. у мінулых гадох; правесьці павярховае паляпшэньне сенажаці на плошчы 15.000 гкт., пашырэньне радавога пасеву да 5000 г. т.

У ліпені вызначана правесьці пашыраныя пленумы сельсаветаў з удзелам усіх грамадзкіх арганізацый вёскі, аграўпаўнаважаных, на якіх будуць абгавораны вынікі вясеньняй пасеўной кампаніі і мерапрыемствы ў час асеньняй кампаніі.

У раёнах вызначана правесьці пашыраныя пленумы аграсаветаў з удзелам прадстаўнікоў сельгассэкцый, сельсаветаў, аграўпаўнаважаных, прадстаўнікоў саўгасаў, калгасаў і інш. вытворчых аб'яднаньняў.

Пытаньні пасеўкампаніі вызначана абгаварыць на сходах і групах беднаты.

Асаблівую ўвагу завайстрае АК на дапамозе беднаце па лініі ўсіх снабжэнчаскіх і крэдытных органаў, а таксама шляхам арганізацыі працоўнай і супольнай дапамогі.

Між іншым, АК вызначыў вылучыць фонд па каапэраваньню беднаты з прыбыткаў каапэрацыйных органаў за першае паўгодзьдзе ў разьмеры 20%.

Даны паказаньні проф. і шэфскім арганізацыям аб іх актыўным удзеле ў пасеўкампаніі па прыкладу вясеньняй пасеўкампаніі.

### Мазырская акруга.

Мазырскі АК вызначыў задачы, якія стаяць перад акругай у асеньнюю пасеўкампанію і тыя мерапрыемствы, якія павінны быць праведзены ў час пасеўкампаніі.

АК вызначыў наступныя задачы, якія павінны быць вызначаны ў пляне пасеўкампаніі: пашырэньне агульнай пасеўплошчы азімых у індывідуальных гаспадарках ня менш як на 3,7% за кошт пералогаў і бросавых зямель, у саўгасах на 2% і ў калгасах, уключаючы ўноў арганізаваныя—на 144%, а ўсяго па акрузе на 4,9%; падвысіць ураджайнасьць азімых у сялянскіх гаспадарках на 7%, у калгасах на 12% і ў саўгасах на 20%.

Намечана арганізаваць у час васеньняй пасеўкампаніі 20 калгасаў на плошчы 4000 гкт. і розных вытворчых аб'яднаньняў—71. Прапанована забясьпечыць у першую чаргу калгасы сродкамі вытворчасьці і закончыць землеўпарадка-

ваньне і юрыдычнае афармленьне арганізаваных калгасаў з тым, каб яны змаглі восеньню прыступіць да калектыўнага землекарыстаньня.

Вызначана ачысьціць 60% сялянскага пасеўнага матар'ялу; правесьці кампанію па зяблевай успашцы на плошчы 62 тыс. гкт., а ў саўгасах і калгасах усю падлягаючую плошчу.

Таксама вызначана завапнаваць 750 гкт. і перавесьці на шматпольле больш 2200 гкт. і шэраг іншых мерапрыемстваў. Каб ажыцьцявіць гэтыя задачы і мерапрыемствы, даручана разгарнуць шырока масавую работу.

У ліпені склікаюцца пашыраныя пленумы с/саветаў з удзелам усіх грамадзкіх арганізацый вёскі, аграўпаўнаважаных; на гэтых пленумах будуць абгавораны вынікі вясеньняй і задачы васеньняй пасеўкампаніі.

Будзе разгорнута спаборніцтва вакол поўнага выкананьня пляну пасеўкампаніі.

Асабліва завострана ўвага на арганізацыю грамадзкае ўзаемадапамогі беднаце па апрацоўцы і засеву палёў, практыкуючы суботнікі і нядзельнікі, і даручана разгарнуць арганізацыю супраг.

На працягу ліпеня склікаюцца па вёсках сходы беднаты і па раёнах нарады груп беднаты па пытаньням пасеўкампаніі.

З боку праф. арганізацый і шэфскіх арганізацый будуць пасланы рабочыя брыгады, арганізаваны паходныя майстэрні.

## Полацкая акруга.

Полацкі АК у сваіх дырэктывах аб арганізацыі васеньняй пасеўкампаніі завастрыў увагу на задачах, ажыцьцяўленьне якіх павінна даць патрэбныя вынікі, вызначаныя гадавым плянам, і замацаваць дасягненьні вясеньняй кампаніі.

Сярод высунутых АК задач вызначаюцца наступныя: уцягненьне ў севазварот неасвоеных зямель, за лік чаго павялічыць азімы клін, гаспадарчае і арганізацыйнае ўзмацненьне існуючых калгасаў, іх узбуйненьне і арганізацыя новых, у прыватнасьці, буйнага чырвонаармейскага калгасу, пасіліць тэмп арганізацыі рознага роду вытворчых аб'яднаньняў і палепшыць іх абслугоўваньне.

Асаблівая ўвага зьвернута на ажыцьцяўленьне аграмінімуму, бо дагэтуль з боку раёнаў мала звярачвалася ўвагі гэтаму пытаньню і ўвядзеньне аграмінімуму праходзіць зусім нездавальняюча. У большасьці раёнаў амаль ня выдадзены абавязковыя пастановы аб аграмінімуму.

Таксама намечана разгарнуць у час васеньняй кампаніі спаборніцтва за правядзеньне ўсіх вызначаных мерапрыемстваў.

Дадзены таксама адпаведныя паказаньні аб разгортваньні масавай работы і работы па сплачэньню бядняцкіх і серадняцкіх мас вёскі супроць варожых элемэнтаў і кулацтва.

Даручана прафарганізацыям і шэфарганізацыям разгарнуць сваю работу па ўдзелу ў васеньняй пасеўкампаніі.

## Віцебская акруга.

Даручана правесьці адпаведную работу па замацаваньню існуючае сеткі калгасаў і арганізацыі ва ўноў арганізаваных калгасах калектыўнай апрацоўкі глебы і засеву азімага кліну, а таксама па забясьпячэньню ўсіх калгасаў акругі штучным угнаеньнем і с.-г. машынамі.

Таксама даручана працягваць у час асеньняй кампаніі работу па арганізацыі новых калгасаў, зьвярнуўшы ўвагу на адстаючыя раёны і ўдзяліць асаблівую ўвагу на пашырэньне існуючых калгасаў за лік уцягненьня акаляючых сялян.

За мінулы час гэтага году плян арганізацыі вытворчых с.-г. т-ваў выканан толькі на 50%, і работа па вытворчаму каапэраваньню за апошні час некалькі аслабла.

Сярод намечаных мерапрыемстваў па ўзмацненьню с. г. наогул, у прадстаячай асеньняй кампаніі трэба падкрэсьліць пашырэньне азімага

кліну на 1,5%, павышэньне ўраджайнасьці па сялянскім гаспадаркам на 7%, па калгасах на 12% і ў саўгасах на 20%. З гэтай мэтай прапанована, між іншым, скарыстаць бросавыя і мэліарыруемыя землі, дабіцца росту агранамічных мерапрыемстваў (радавы пасеў, раньнія папары і інш.); ва ўсіх калгасах і саўгасах ачысьціць усе 100% насеньня, а ў сялянскіх гаспадарках ня менш 60% агульнае колькасьці насеньня.

Акрамя таго, АК зварачвае асаблівую ўвагу на справу падрыхтоўкі глебы да вясеньняга пасеву 1930 г., выкананьне плянавага заданьня па ўспашцы на зяб).

У галіне масавай работы ў час падрыхтоўкі да асеньняй пасеўнай кампаніі намечана правесьці пашыраныя пленумы с/с супольна з аграўпаўнаважанымі, скліканьне спэцыяльных сялянскіх канфэрэнцый, нарады сялян-дасьледчыкаў, агранамічных саветаў, правесьці ўсюды паседжаньні груп беднаты і розныя нарады груп беднаты. АК паказаў усім прафэсыйным і шэфскім арганізацыям прыняць удзел у кампаніі па прыкладу вясеньняй сяўбы, арганізуючы шырокую дапамогу і ўдзел у падрыхтоўцы і правядзеньні кампаніі шляхам пасылкі рабочых брыгад, паходных майстэрняў і г. д.

АК зьвярнуў таксама ўвагу на неабходнасьць разгарнуць вакол асобных мерапрыемстваў (ачыстка насеньня, зяблевая ўспашка і інш.) і вакол кампаніі наогул шырокае спаборніцтва між асобнымі раёнамі, сельсаветамі і насельніцкімі пунктамі.

## Соцыялістычнае спаборніцтва.

(*Гомельская акруга*).

АК і АПБ правялі агляд большасьці прадпрыемстваў акругі ў мэтах высьвятленьня, як разгортваецца соцыялістычнае спаборніцтва.

Акругком, на падставе гэтага агляду, адзначыў, што ў выніку праводзімага спаборніцтва маецца шэраг дасягненьняў ў сэнсе мабілізацыі ўвагі і выяўленьня ініцыятывы рабочых мас вакол задач соцыялістычнага будаўніцтва.

Але-ж гэты агляд выявіў слабы ўдзел профсаюзных і гаспадарчых арганізацый у справе садзейнічаньня і кіраўніцтва соцыялістычным спаборніцтвам.

Профсаюзныя і гаспадарчыя ворганы не перабудавалі і не прыстасавалі сваю работу з такім разьлікам, каб накіраваць арганізацыйна-тэхнічныя мерапрыемствы да выкарыстаньня падняўшайся актыўнасьці рабочых і інтэнсыўнасьці працы.

Вытворчыя камісіі і нарады не зьяўляюцца пакуль арганізуючым цэнтрам у справе прапрацоўкі пытаньняў, якія выцякаюць з ходу спаборніцтва.

Пытаньні спаборніцтва знайшлі слабае адлюстраваньне ў штодзённай культ.-масавай рабоце.

Таксама партыйныя арганізацыі яшчэ не падышлі ўплатную да сыстэматычнага кіраўніцтва спаборніцтвам.

Агляд выявіў таксама выпадкі пагоршаньня якасьці прадукцыі ў выніку пагоні ў парадку спаборніцтва за колькасьцю выпрацоўкі.

Адзначана слабае растлумачэньне соц. спаборніцтва сярод асобных груп рабочых (вясковых і новых кадраў) і слабае ўцягненьне ў практычную работу па спаборніцтву тэхнічных сіл.

Выявілася і аслабленьне ўдзелу ў спаборніцтве арганізацый КСМ.

Між іншым, АК адзначыў зусім слабае разгортваньне спаборніцтва ў вёсцы і ўстановах.

Каб адхіліць вызначаныя недахопы і ажывіць наогул справу спаборніцтва, АК даў шэраг паказаньняў і вызначыў шэраг асобных мерапрыемстваў.

Папершае, АК знайшоў неабходным ажывіць культмасавую работу вакол спаборніцтва, шляхам адлюстраваньня гэтага пытаньня ва ўсіх відах культмасавай работы (правядзеньне клюбных вечароў, прысьвечаных спаборніцтву, вечароў з дакладамі на вытворчыя тэмы, вечары сустрэчы з інжынэрна-тэхнічным пэрсаналам, вечары пытаньняў і адказаў і г. д.).

АК выказаўся за тое, каб упразднiць існуючыя штабы і тройкі, усклаўшы кіраўніцтва і арганізацыю соц. спаборніцтва на вытворчыя камісіі і нарады.

Удзел часовых кантрольных камісій павінен адбіцца ў праверцы выкананьня ўзятых абавязкаў па спаборніцтву.

На РК і ячэйкі ўскладзен абавязак на працягу бліжэйшых 2-х месяцаў праверыць, наколькі гаспадарчыя арганізацыі дапасавалі свае пляны рацыяналізатарскіх мерапрыемстваў і забясьпечылі нармальныя ўмовы ходу спаборніцтва (адхіленьне тэхнічных недахопаў, забесьпячэньне сыравінай, увязка работы паміж цэхамі і г. д.). Таксама РК і ячэйкам прапанована рэгулярна, раз у 2-3 месяцы, заслухоўваць інфармацыю аб ходзе спаборніцтва.

Паколькі пэрыяд заключэньня палітычна-гаспадарчых умоў між прадпрыемствамі ў асноўным закончан, АК вызначыў у далейшым цэнтр цяжару спаборніцтва перанесьці ўнутр прадпрыемстваў (між цэхамі, станкамі і асобнымі рабочымі).

Між іншым, АК завайстрыў асабліва пытаньне аб якасьці прадукцыі, разгарнуў спаборніцтва вакол гэтага. Таксама АК зьвярнуў ўвагу адпаведных органаў на павялічэньне нявыхадаў на работу па розным прычынам на некаторых прадпрыемствах (прагулы-ж а зьменшыліся), даручыўшы вывучыць прычыны гэтага зьявішча.

АК КСМ прапанована на адным з бліжэйшых пленумаў альбо нарадзе актыву як у горадзе, гэтак і ў раёнах паставіць спэцыяльнае пытаньне аб пасіленьні актыўнасьці комсамольскіх арганізацый ў спаборніцтве.

Знойдзена неабходным прыступіць да праверкі выкананьня дагавораў па спаборніцтву і ўстанавіць у далейшым парадак праверкі, каб па сканчэньні кожнага гаспадарчага кварталу правяраць вынікі спаборніцтва па лініі зьніжэньня сабекошту, падняцьця вытворчасьці працы.

У мэтах разгортваньня спаборніцтва па ўстановах, даручана ўсім РК прапрацаваць гэта пытаньне на нарадах работнікаў праф., сав., каапэрацыйных і інш. устаноў.

Усім вясковым РК даручана ў месячны тэрмін распрацаваць адпаведныя мерапрыемствы па разгортваньню соц. спаборніцтва ў вёсцы на падставе пастановы ЦК КП(б)Б па гэтаму пытаньню.

## Сацыялістычнае спаборніцтва ў вёсцы.

(*Віцебская акруга*).

Віцебскі АК адзначыў зусім нездавальняючае разгортваньне сацыялістычнага спаборніцтва ў вёсцы. Слаба праводзіцца масавая работа па растлумачэньню значэньня сацыялістычнага спаборніцтва ў сельскай гаспадарцы. У справе сацыялістычнага спаборніцтва маюцца ў Віцебскай акрузе толькі першыя крокі (спаборніцтва паміж асобнымі вёскамі, заключэньне ўмоў асобнымі сялянамі з Сельбанкам і інш. арганізацыямі аб прымяненьні агранамічных мерапрыемстваў і г. д.).

У мэтах пасіленьня справы спаборніцтва, АК прапанаваў ў 2-х тыднёвы тэрмін праверыць ход і ўжо канкрэтна дасягнутыя вынікі па сацыялістычнаму спаборніцтву ў вёсцы і прыняць меры да шырокага яго разгортваньня. Таксама прапанована разгарнуць масавую работу ў

сувязі з правядзеньнем спаборніцтва, скарыстаўшы ўсе віды і формы масавай работы.

АК прапанаваў стварыць фонд па прэміраваньню як асабовага, так і калектыўнага, найбольш выдатнага, удзелу і дасягненьняў ў спаборніцтве. Практычную работу па правядзеньню спаборніцтва АК усклаў на існуючыя органы (рабачкомы, саветы, калгасы, праўленьні каапэратываў і г. д.), імкнучыся не ствараць спэцыяльных камісій.

## Становішча работы сярод беднаты і батрацтва.

*(Магілеўская акруга).*

Пленум Магілеўскага АК КП(б)Б абмеркаваў пытаньне аб становішчы работы сярод беднаты і батрацтва ў акрузе. Пленум адзначыў, што рашэньні партыі аб рабоце сярод беднаты і батрацтва РК і ячэйкамі ўсвоены, дзякуючы чаму маецца палепшаньне ў справе арганізацыі беднаты і батрацтва вакол асноўных мерапрыемстваў партыі, праводзімых на вёсцы (калгасбудаўніцтва, вытворчае каапэраваньне, перавыбары саветаў, каапэрацыі, самаабкладаньне, падрыхтоўка да пасеўкампаніі) і парт. арганізацыя значна больш падняла актыўнасьць беднаты і батрацтва, лепш замацавала блёк паміж бедняком і серадняком, дала адпаведны адпор варожа-кулацкім элемэнтам і іх дамаганьням. Арганізацыйная работа сярод беднаты за зімовы пэрыяд праведзена наступная: праведзена 2755 сходаў беднаты, пашырыліся групы беднаты—з 134 на 1/X-28 г. да 198 на 1/V-29 г.

Але усё-ж, Пленум АК павінен быў адзначыць, што ўсё яшчэ большасьць РК і ячэек праводзіць работу сярод беднаты па-кампанейскі бясплянава, мала актывізуе беднату вакол калектывізацыі, вытворчага каапэраваньня і культурнага будаўніцтва вёскі; ёсьць яшчэ выпадкі правядзеньня сходаў беднаты без прыцягненьня серадпякоў, што адбіваецца дрэнна на ўзаемаадносінах бедняка з серадняком.

Заўважаны таксама выпадкі, калі партыйцы ня кіруюць сходамі беднаты (абіраюць Прэзыдыум схода беднаты, сходы праводзяцца беспартыйнымі). Таксама на мясцох назіраецца непаразуменьне ў справе арганізацыі груп беднаты (складаюцца з членаў некалькіх устаноў, групамі кіруюць кандыдаты партыі і камсамольцы, ёсьць групы зусім безпартыйнага кіраўніцтва, абіраюцца старшыні і сэкратары груп, праводзяцца зачыненыя паседжаньні груп, без прыцягненьня на іх бядняцка-серадняцкага актыву. Большасьць груп працавала бясплянава, адсутнічае канкрэтнасьць у пастановах, слабае наведваньне пасяджэньняў (60-65%).

Пленум павінен быў адзначыць, што работа з батрацтвам пастаўлена дрэнна, няма сталага вучоту іх, слаба праводзіцца абарона эканамічных інтарэсаў батрацтва, не ўсе батракі ахоплены кал. умовамі, асабліва ў кулацкіх гаспадарках, зусім слаба праводзіцца закон аб абавязковым страхаваньні батрацтва у кулацкіх гаспадарках, прымірыцельныя камісіі пры РВК амаль-што не працуюць.

Таксама Пленум АК прызнаў, што культмасавая работа сярод батрацтва праводзіцца слаба. Малы рост вясковых ячэек за лік батракоў (за 5 м-цаў прынята па акрузе 13 батракоў); слаба пастаўлена работа КСМ сярод батрацтва (у складзе арганізацыі КСМ 8,7% батракоў).

Таксама ёсьць яшчэ шэраг скажэньняў клясавай лініі ў каапэраваньні і крэдытаваньні. Каапэраваньне беднаты і батрацтва праводзіцца мэханічна, фонды скарыстоўваюцца не своечасова, ёсьць выпадкі, калі ільготы даюцца не беднаце, а сераднякам і нават заможным; павышана крэдытуюцца

заможнікі (па 41 крэд. т-ву заможнікі атрымалі крэдыту 7,1% у адносінах да агульнага ліку пайнікаў).

Яшчэ зусім слабай прызнана кіраўніцтва работай КСУ з боку РК і ячэек.

Пленум АК даў шэраг дырэктыў па адхіленьню ўсіх заўважаных недахопаў, у прыватнасьці, прапанаваў РК і ячэйкам на працягу летняга часу правесьці шырокія сходы беднаты і батрацтва па ўсіх вёсках, саўгасах і калгасах па растлумачэньню пастаноў XVI партканфэрэнцыі; прыняць зараз рашучыя крокі да падрыхтоўкі кадраў з батракоў, беднаты і лепшае часткі серадняцкага актыву для вылучэньня і правесьці ў чэрвені і ліпені курсы-нарады з вылучэнцамі; шырока разгарнуць работу сярод батракоў, с.-г. рабочых і лепшай часткі беднаты па вярбоўцы іх у шэрагі партыі, і, як вопыт, Магілеўскаму РК прапанована арганізаваць пры кожнай парт'ячэйцы групу батракоў па падрыхтоўцы іх ў партыю, а усім РК прымацаваць асобных партыйцаў да батракоў для правядзеньня работы па вярбоўцы ў партыю; у чэрвені-ліпені м-цы правесьці курсы-нарады з батракамі, калгасьнікамі па вярбоўцы іх у партыю; рашуча ўзяць курс на пашырэньне арганізацыі груп беднаты і на працягу чэрвеня-ліпеня скласьці пляны работы груп беднаты, паклаўшы ў аснову жыцьцё установы, пры якой існуе група; таксама намечана практыкаваць правядзеньне групавых нарад груп беднаты па с/с па пытаньням, якія датычацца ўстаноў гэтых груп (калектывізацыя, каапэраваньне беднаты, ажыўленьне работы груп беднаты); на працягу ліпеня-жніўна перагледзіць склад кіраўнікоў груп беднаты; ня менш як адзін раз у тры месяцы склікаць нарады сэкратароў вясковых ячэек сумесна з кіраўнікамі груп беднаты па пытаньням работы сярод беднаты і батрацтва.

Акрамя таго, дадзены дырэктывы аб палепшаньні эканамічных умоў батрацтва (сталы іх вучот, ахоп усіх прац. умовамі, павышэньне пэнсіі ў серадняцкіх гаспадарках на 10% і кулацкіх на 20%, правесьці закон аб абавязковым страхаваньні).

Таксама прапанована на працягу ліпеня-жніўня праверыць крэдытныя таварыствы ў галіне сацыяльнага напрамку крэдыту і праверыць скарыстаньне маючыхся фондаў каапэраваньня беднаты.

Пленум таксама прызнаў неабходным разгарнуць работу па шэфству саўгасаў над бядняцкімі вёскамі з мэтай аказаньня ім дапамогі.

Пленум даў і шэраг іншых дырэктыў аб прыцягненьні груп беднаты і наогул беднату ў вытворчыя с.-г. нарады, аб наладжаньні работы прымірыцельных камісій пры РВК, арганізацыі працоўных дружын пры КСУ для аказаньня прац. дапамогі беднаце, аб забесьпячэньні сацыяльна-клясавага ўкамплектаваньня школ з новага навучальнага году і інш.

## Партыйная і рабочая асьвета.

### Гомельская акруга.

Прыступаючы да падрыхтоўкі партасьветы і прафасьветы ў будучым годзе, Гомельскі АК падвёў вынікі мінулага вучэбнага году.

У мінулым годзе па Гомельшчыне дасягнута значна большы і лепшы колькасны ахоп партыйнай масы сеткай партасьветы, пытаньні бягучага палітычнага і гаспадарчага жыцьця занялі значна большае месца ў агульнай палітычнай асьвеце камуністых і шырокіх колаў рабочых.

Гэта спрыяла выкананьню асноўнай задачы—праработкі ўсёй партыйнай масай асноўных рашэньняў партыі, падняцьцю актыўнасьці мас на барацьбу супроць ухілаў ад правільнай ленінскай лініі, за ажыцьцяўленьне рашэньняў партыі.

Прынцып дабраахвотнасьці, які прымяняўся ў мінулым годзе ў справе партасьветы, апраўдаў сябе поўнасьцю. Але на мясцох меліся выпадкі скажэньня прынцыпу дабраахвотнасьці (тлумачылі гэты прынцып, як дабраахвотны выбор форм асьветы, лічучы вучобу абавязковай, што прывяло ў іншых выпадках да мэтадаў нажыму і прымусу).

Пашырэньне сеткі вышэйшых ступеней партасьветы (вяч. саўпартшколы ў большасьці буйных вясковых раёнаў, нядзельныя курсы ў Рэчыцы і Добрушы, нядзельны Камвуз і завочная саўпартшкола) дала магчымасьць ахапіць у большай меры партыйны актыў вучобай.

На шэрагу з гэтымі дасягненьнямі выявіліся і буйныя недахопы. Меўся даволі значы адсеў у шэрагу школ, асабліва ў сетцы першапачатковай палітасьветы, цякучасьць складу слухачоў (пераход з аднэй школы ў другую і г. д.), недапасована была сетка да пераходу прадпрыемстваў на зьменнасьць. Слаба былі ахоплены сеткай партасьветы беспартыйныя рабочыя, батрацкі і бядняцкі актыў. Перашкаджаў нармальнай вучобе адрыў партыйнага актыву ў дні вучобы на розныя пасяджэньні і нарады.

Каб лепш падрыхтавацца да новага вучэбнага году, Гомельскі АК вызначыў правесьці ў жніўні месячнік партасьветы і прафтэхнічнай асьветы для дарослых рабочых.

У час гэтага месячніку будзе праведзена камплектаваньне па ўсёй сетцы парт. і прафасьветы з тым разьлікам, каб кожны камуністы, кожны рабочы меў магчымасьць абраць тую форму вучобы, якая яму неабходна.

У вясковых раёнах такая работа павінна быць праведзена не пазьней верасьня.

АК таксама вызначыў пашырыць сетку вячэрніх партшкол, арганізуючы гэтыя школы ў кожным вясковым раёне. Намечана пашырыць сетку гурткоў бягучай палітыкі, галоўным чынам, па прапрацоўцы пяцігодкі, уцягваючы ў гэтыя гурткі ня менш паловы беспартыйных рабочых, батракоў і бядняцкага актыву.

Паколькі поўнасьцю апраўдаў сябе вопыт арганізацыі раённых школ (6-тыднёвых з інтэрнатам і харчаваньнем), АК прызнаў неабходным сетку гэтакіх школ расшырыць і ўцягнуць у гэтыя школы ня менш паловы батракоў, рабочых саўгасаў і сялян-беднякоў, асабліва калгасьнікаў.

Каб палепшыць скарыстаньне ўноў падрыхтаванага кадра рабочых прапагандыстых, прапанована замацаваць іх на гэтай рабоце, разгрузіўшы іх ад іншых абавязкаў.

Даручана забясьпечыць перавод усёй вясковай сеткі партасьветы і вячэрніх сялянскіх школ на беларускую мову, а ў гарадзкіх раёнах стварыць групы альбо перавесьці асобныя прадметы на беларускую мову.

Адзначаючы слабае правядзеньне пастановы ЦК УсеКП(б) аб карэным палепшаньні палітычнай асьветы комсамолу, АК даручыў гэту пастанову ў будучым годзе ажыцьцявіць.

Даручана таксама ў месячны тэрмін распрацаваць мерапрыемствы, якія забясьпечылі-б рашучы зрух у справе падняцьця ўзроўню партактыва.

У мінулым годзе значна была ахоплена рабочая маса сеткай агульнай рабочай асьветы. Ва ўсіх рабочых школах, нядзельным рабочым універсытэце і вячэрнім рабфаку навучалася больш 2000 чал. Але-ж на працягу вучэбнага году меўся значны адсеў, які дасягнуў 40%, што тлумачыцца перагружанасьцю праграм, неабходнасьцю займацца 4 разы ў тыдзень па 4 гадзіны і недапасаванасьцю школ да зьменнасьці і інш.

У мэтах палепшаньня справы рабочай асьветы, з будучага вучэбнага году будзе праведзена рэарганізацыя сеткі.

Для дарослых рабочых будуць адкрыты 2-х гадовыя школы з няткамі 3 разы ў тыдзень, прыстасоўваючы работу гэтых школ да

зьменнасьці. У Гомелі будзе адкрыт вячэрні універсытэт, нядзельны рабочы універсытэт у Рэчыцы і Нова-Беліцы і будзе расшырана сетка курсаў падрыхтоўкі ў тэхнікумы і ВУЗ'ы.

Паколькі апраўдаў сябе вопыт арганізацыі школ для дарослых сялян, вызначана сетку гэтакіх школ расшырыць з тым разьлікам, каб мець ня менш 2-х школ у кожным раёне. У кожнай з гэтых школ павінна быць уцягнута ня менш чым па 10 батракоў, забясьпечыўшы найбольш нуждаючыхся стыпэндыямі на тэрмін работы школ.

### Бабруйская акруга.

Бабруйскі АК пачаў падрыхтоўку да парт. вучобы ў 1929-30 г. АК даў паказаньні ўжо ў ліпені разгарнуць шырока растлумачальную падрыхтоўчую работу аб захадах і сыстэме партасьветы і прынцыпах яе пабудовы ў наступным годзе. Пытаньне аб партвучобе будзе шырока абгаварвацца на сходах ячэек з мэтай растлумачэньня задач партасьветы, хода яе летам і падрыхтоўкі на зіму.

У ліпені-ж вызначана пачаць камплектаваньне, г. з. высьвятленьне, хто і як жадае вучыцца. Гэта работа павінна быць закончана да канца ліпеня, каб мець магчымасьць своечасова падрыхтаваць адпаведную сетку школ і гурткоў.

Для дапамогі ячэйкам у правядзеньні гэтай работы вызначана, каб райкомы мабілізавалі групы актыву для правядзеньня растлумачальнай работы і работы па камплектаваньню.

Каб больш яскрава ўсьвядоміць прынцып дабраахвотнасьці, набор у ВСПШ і ўсе сярэднія формы партасьветы будзе рабіцца праз разгляд спэцыяльнымі камісіямі заяў, жадаючых уступіць у адпаведныя школы і гурткі.

АК паставіў, як важнейшую задачу, уцягнуць у школы і гурткі палітграматы ад 30 да 50% беспартыйных рабочых, а ў вёсцы ад 20 да 30% с.-г. рабочых і батракоў.

Дзеля гэтага пытаньне аб падрыхтоўцы да навучальнага году будзе пастаўлена на сходах рабочых і батракоў.

АК выказаўся за тое, каб адмовіцца поўнасьцю ад перасовак і замест гэтага павялічыць лік платных прапагандыстых у раёнах.

АК таксама паказаў, каб было забясьпечана ўцягненьне ў палітсетку ня менш 25% жанчын—камуністак і беспартыйных.

У мэтах падняцьця палітычнага і тэорэтычнага ўзроўню партактыву, будзе ў горадзе арганізавана для актыву нядзельная школа з лекцыямі па асобным тэорэтычным пытаньням і пытаньням бягучай палітыкі.

У мэтах папулярызацыі справы партасьветы, даручана выпусьціць плякат-лістоўку па пытаньням партасьветы у выглядзе спэцыяльнага дадатку да газэты „Камуніст".

## Пытаньні профтэхнічнай асьветы.

### Магілеўская акруга.

У 1928-29 г. значна палепшыўся соцыяльны склад вучняў тэхнікумаў і прафшкол Магілеўскай акругі.

У складзе студэнтаў тэхнікумаў павялічылася, у параўнаньні з мінулым годам, колькасьць дзяцей рабочых і батракоў на 9,5% і дзяцей беднаты на 10,5%, а ў складзе вучняў прафшкол—дзяцей рабочых на 3,8% і сялян беднякоў на 2,7%.

Таксама некалькі павялічыўся партыйны і камсамольскі асяродак: у тэхнікумах партасяродак павялічыўся на 4,1% і камсамольцаў на 6%, у прафшколах камсамольцаў—на 1,6%.

Павялічылася і колькасьць жанчын у тэхнікумах на 3,5%.

Магілеўскі АК, азнаёміўшыся са станам тэхнікумаў і прафшкол па акрузе, адзначыў у дзейнасьці гэтых

навучальных установ некаторае палепшаньне матар'яльнага забесьпячэньня вучняў і паляпшэньне вучэбнай работы, пасіленьне выхаваўчай работы, павышэньне дысцыпліны і некаторае разгортваньне грамадзкакарыснай работы.

Але-ж АК павінен быў адзначыць недастатковы процант дзяцей рабочых, батракоў, калгасьнікоў і беднаты ў тэхнікумах і прафшколах і недастатковую ачыстку складу студэнтаў тэхнікумаў і прафшкол ад сацыяльна-чуждага элемэнту.

Таксама АК адзначыў наступныя перашкоды ў вучэбнай справе гэтых установ: недастатковае забясьпечаньне некаторых тэнікумаў (зямельны) і прафшкол габінэтамі, бібліатэкамі, майстэрнямі, інструмантамі і прыладамі.

У складзе настаўнікаў АК прызнаў малым %% партыйцаў, а ў справе выкладаньня адзначана правядзеньне часткай настаўнікаў „безклясавага“ выхаваньня, не пэдагагічныя адносіны да вучняў і ня поўны пераход выкладаньня на белмову.

У некаторых тэхнікумах і прафшколах сярод вучнёўскіх калектываў заўважваюцца выпадкі антысэмітызму, шовінізму, хуліганства, між тым адсутнічае разгорнутая і глыбокая выхаваўчая работа ў вучнёўскіх калектывах часткі тэхнікумаў і прафшкол.

АК асабліва зьярнуў ўвагу на няпоўную прыстасаванасьць сеткі прафшкол да кваліфікацыі патрэбнай ва ўмовах акругі і даручыў адпаведным органам рэарганізаваць сетку прафшкол, прыстасаваўшы яе да патрэб і напрамку разьвіцьця эканомікі акругі, адпаведна канцэнтрыруючы гэтыя школы.

АК даў паказаньні аб укамплектаваньні гэтых вучэбных установ у 1929-30 г., каб палепшыць належным чынам склад вучнёўства і знайшоў у сувязі з гэтым неабходным павялічыць лік стыпэндыяў да 70% да агульнай колькасьці вучняў (у бяг. годзе меліся стыпэндыі на 50% для тэхнікумаў і 54% для прафшкол).

Далей АК паказаў, з мэтай палепшаньня становішча тэхнікумаў і прафшкол, забясьпечыць іх неабходнай *жылой плошчай* для інтэрнатаў, павялічыць у 1929-30 г. асыгнаваньні на абсталяваньне вучэбнымі прыладамі і палепшаньня мэтадаў выкладаньня, з наступнага году паравесьці канчаткова выкладаньне на бел. мову.

Таксама дадзены паказаньні аб пасіленьні грамадзка - палітычнага выхаваньня і г. д.

# У ПАРТЫЙНЫХ КАМІТЭТАХ.

## Рэгуляваньне росту арганізацыі.

### *(Віцебскі АК).*

Віцебскі АК КП(б)Б заслухаў даклад 2-га РК аб вярбоўцы рабочых у партыю. Па дакладу быў адзначан слабы тэмп росту парт. арганізацыі за лік рабочых ад варштату. Рост арганізацыі за кошт старых кваліфікаваных рабочых, з вялікім вытворчым стажам праходзіў зусім слаба, а таксама слабы быў рост за лік комсамольцаў-рабочых і жанчын.

Галоўнымі прычынамі слабага росту арганізацыі зьяўлялася тое, што з боку шэрагу Райкомаў, у тым ліку і 2-га РК, была слабая ўвага пытаньням росту, аслабленьне работы па вярбоўцы ў партыю, асабліва пасьля Кастрычнікаўскага прызыву.

Масавая работа праводзілася слаба і амаль адсутнічала работа з актывам, які ня прыцягваўся на адчыненыя партыйныя сходы, ня ўводзіўся ў курс чарговых задач партыі.

Работа з камсамольскім актывам, асабліва з перарosткамі, праводзілася слаба, не сыстэматычна.

Дэлегацкія сходы жанчын, якія зьяўляюцца рэзэрвам росту партыі, не скарыстоўваліся і работы са сходамі не вяліся.

Апроч гэтага, сярод часткі камуністых назіраліся хваробныя настроі аб немагчымасьці далейшага росту арганізацыі, што таксама зьяўлялася значнай перашкодай у справе ўцягненьня рабочых у партыю.

У сваёй ранейшай пастанове АК прапанаваў усім РК увесьці ў сыстэму заслухоўваньне дакладаў ячэек і калектываў аб вярбоўцы рабочых у партыю і зьменах у сацыяльным складзе асобных ячэек. Ня менш як адзін раз у тры месяцы заслухоўваць на

бюро і пленумах РК даклады аб ходзе вярбоўкі рабочых у партыю, а таксама практыкаваць пастаноўку пытаньняў росту на пленумах АК і сходах актыву гарадзкіх райпартарганізацый.

Для ўзмацненьня работы з беспартыйным актывам АК прапанаваў практыкаваць, для большага яго прыбліжэньня да парт. ячэек, пэрыядычныя нарады актыву па цэхах і прадпрыемствах з мэтаю правядзеньня з ім гутарак па розным пытаньням палітычнага жыцьця і вытворчае работы, большага азнаямленьня актыву з чарговымі задачамі партыі.

## Рост і рэгуляваньне сацыяльнага складу КСМ.

(*Віцебскі АК*).

Віцебскі Акругком КП(б)Б заслухаў даклад аб росьце і рэгуляваньні сацыяльнага складу арганізацыі КСМ.

У пастанове АК адзначае, што хаця арганізацыя і пашырыла свой ўплыў на шырокія колы працоўнай моладзі, аднак рост і сацыяльны склад яе патрабуе значнага палепшаньня.

Становішча Віцебскай арганізацыі КСМ мае такі выгляд: на 1/I-29 г.—9.123 чал., на 1/VI-29 г.—10.465 чал. (павялічэньне на 1.342 чал.), рабочых на 1/I-29 г.—3.214—35%, на 1/VI-29г.—3.710—35,4%, с/г рабочых і батракоў на 1/I-29 г.—516—5,6%, на 1/VI-29 г.—651—6,2%.

Аднак, АК прызнаў, што процант ахопу рабочае моладзі па прамысловасьці зьяўляецца недастатковым, асабліва с/г рабочых, батракоў і дзяўчат, галоўным чынам, работніц у горадзе, батрачак у вёсцы.

Трэба адзначыць, што ў галіне росту КСМ і яго рэгуляваньня назіралася і назіраецца непаразуменьне, як скрыўленьне лініі з боку нізавых ячэек, асабліва вясковых аб 100% ахопе рабочай моладзі і недаацэнка важнасьці забесьпячэньня пралетарскага кіраўніцтва ў КСМ. Паслабленьне росту тлумачыцца і тым, што культ-масавае абслугоўваньне рабочай моладзі ўсё яшчэ недастатковае.

Акругком прапанаваў АК КСМ сачыць за цьвёрдым рэгуляваньнем росту КСМ і ў штодзённай працы зварочваць увагу ўсіх арганізацый КСМ на рашучае ўзмацненьне працы па павялічэньню рабочага і батрацкага асяродку ў арганізацыі.

Для большага разгортваньня культ-масавай работы на прадпрыемствах, у саўгасах, калгасах і сярод батрацтва даручана прапрацаваць дырэктывы АК па гэтаму пытаньню і навакол іх скласьці практычныя мерапрыемствы масавай работы.

Прапанова РК КП(б)Б сачыць за работай райарганізацыі КСМ і ў бліжэйшы час заслухаць даклады па пытаньню росту і рэгуляваньня сац. складу арганізацый КСМ, вызначыўшы мерапрыемствы па яго палепшаньню.

## Мерапрыемствы па палепшаньню масавай агітацыі.

(*Менскі АК*).

З мэтай выкананьня дырэктыў ЦК Усе КП(б) і палепшаньня масавай агітацыі сярод рабочых, Менскі АК прызнаў неабходным склікаць мітынгі (1—2 разы ў месяц) на прадпрыемствах з канкрэтнымі пытаньнямі вытворчага жыцьця прадпрыемства, унутранай палітыкі партыі і высьвятленьня міжнародных падзей.

Для масавай работы на прадпрыемствах АК прызнаў неабходным адвесьці 1 спэцыяльны дзень у тыдзень, даручыўшы РК канкрэтна ўстанавіць гэты дзень.

Пастаноўлена мабілізаваць групу адказных працаўнікоў для скарыстаньня іх на масавай рабоце на прадпрыемствах. Адначасова прызнана ўстанавіць практыку скліканьня нарад асобных груп рабочых (старыя рабочыя, новыя, чырвоныя партызаны і г. д.), а таксама і па асобным кваліфікацыям.

Даручана РК КП(б)Б вылучыць кадр агітатараў для працы па месцу жыхарства рабочых (пасёлкі-інтэрнаты) і правесьці пастаноўку індывідуальнай і групавой агітацыі на прадпрыемствах з пункту погляду высьвятленьня якасьці гэтае работы, становішча кадраў агітатараў, работы партячэек і РК у гэтай галіне.

## Курсы па перападрыхтоўцы партыйнага актыву.

(*Аршанскі АК*).

З мэтай падняцьця палітычнага ўзроўню партыйнага актыву, Аршанскі АК пастанавіў арганізаваць на летні час наступныя курсы: для партпрапагандыстых (кіраўнікі АПШ і гурткоў ніжэйшых зьвеньнеў партасьветы) на 33 чал., прапагандыстых камсамолу (кіраўнікі палітшкол КСМ і гурткоў) на 25 чал., жанарганізатараў на 28 чал., сакратароў ячэек КП(б)Б на 30 чал.

Адбор курсантаў ускладзен непасрэдна на АПА АК.

Даручана Райкомам пры адборы на курсы партыйных і камсамольскіх прапагандыстых і сакратароў ячэек мець на ўвазе забесьпячэньне курсаў жанчынамі няменш як на 20%.

Рэдактар: *Рэдкалегія.*

Друкарня БДВ. Зак. № 3292. У ліку 2000 экз. Галоўлітбел № 2182.



